# НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №14. 1993*


**SAKRUM** На працягу 2-х стагодзьдзяў уся беларуская традыцыя адраджэнства складалася «на польскі ўзор», у якім незалежнай Беларусі, як канчатковае мэты, не было й не магло быць.

**ЖЫДОЎСКІ НУМАР НН** «У Полацку майго дзяцінства, жывучы сярод суседзяў, якіх спрэс звалі Хаімамі, Абрамамі, Ізраілямі ды Мойшамі, я да душы зьдзіўляўся, што ў майго таты такое нетутэйшае імя — Аляксей»... Эсэ Ўладзімера Арлова «Мой сябра Вова Цымэрман» і апавяданьне папулярнага ў Польшчы даваеннага пісьменьніка Бруна Шульца «Вуліца Кракадзілаў» (упершыню па беларуску).

**«БАЛЦКАЯ ТЭМА»** Артыкул Сяргея Санькі: Праблема ня ў тым, наколькі спрычыніліся да фармаваньня беларускага этнасу балты, а ў тым, наколькі спрычыніліся славяне.

# Несапраўдны Кніжны Скарпіён



## Шляхціц Завальня

Прадмова да 4-га беларускага выданьня

Кожнага разу, калі настае восень, калі доўгі кастрычніцкі дождж гоніць нас, нібы палае лісьце, зь лесу, з ракі й з суседзкіх двароў, калі шэры дзень так незаўважна перамяняецца ў вечар, што раз-пораз пазіраеш на гадзіньнік, блытаючы «шэсьць» і «восем», каб адразу ж забыцца на час і зірнуць зноў, — кожнага разу мы з шумам ляцім па гулкай лесьвіцы да свайго паверху і, расчырванелыя, штурхаемся ў калідоры, скідаючы абутак, нешта выкрыкваем, сьмяемся й разьбягаемся па доме, па ўсіх пакоях, каб неўзабаве сабрацца да вечаровага стала, ля якога ўжо сядзіць наш сівавусы дзядуля, каб пасьля вячэры йсьці ў вялікі гасьцёвы пакой, дзе мы з нагамі залазім на старасьвецкую канапу, каб зараз жа стаіцца й слухаць, слухаць пад бомканьне дажджу за вакном доўгі-доўгі роспавед пра іншы сьвет ды іншых людзей, дзе сьвет і людзі такія дзіўныя й такія падобныя да нас саміх, бо гэта наш дзядуля распавядае нам свае дзівосныя гісторыі, а мы, заварожаныя, не варушымся, хоць нам зусім ня хочацца спаць, бо трэба абавязкова дазнацца, чым скончыцца гэтае апавяданьне, якое ўжо заўтра мы будзем пераказваць адзін аднаму на розныя лады, але так будзе заўтра, а сёньня мы заўважаем, што дзядулевы гісторыі апошнім часам робяцца ўсё больш кароткія і ўсё часьцей паўтараюцца, яны ўжо зусім не такія захапляльныя, як колісь, і ад гэтага нам лезуць у галаву ўсялякія недарэчныя думкі пра тое, што наш дзядуля зусім пастарэў і не распавядзе нам ужо больш нічога — ён пазірае на нас сваімі сумнымі вачыма, у якіх стаяць сьлёзы, нібы вінаваціцца перад намі, бо штосьці зьмянілася — нават ня ў ім, і ня ў нашым вялікім пакоі, а ў цэлым сьвеце, альбо гэта мы ўжо вырасьлі з гэтага сьвету, бо кожнага разу, калі гадзіньнік паказваў дзесяць, дзядуля казаў нам: «Пара спаць!» — а сёньня ўжо даўно за дзесяць, а ён ня кажа нічога. Ён маўчыць...



* * *

Пустэльня
навокал,
хоць справа
І зьлева —
паўсюль барацьба.
І ў тлуме
ўсіх ісьцін
яскрава
Адно толькі
сьвеціць —
журба:
Якія б
ні бухалі маршы,
І што б ні крычалі
ўзахлёб,
Яна ацалее
і ляжа
Пасьмертнаю
маскай
на лоб.

*Хведар НІЦКА*

Ад Рэдакцыі

# Дзёньнік прыватнага чалавека

* * *

Беларускую гарадзкую традыцыю стварылі жыды. І цяпер беларусы, што прыехалі ў горад на *вызваленае* месца са сваёй вясковай традыцыяй, жывуць у гэтым сымбіёзе жыдоўскае інэрцыі і ўласнага нэафіцтва. Ролю дзядзі Ізі сяк-так выконвае дзядзька Юзік, а цёці Соні — цётка Маня... Розьніца ў тым, што Ізя й Соня, кожны іхні ўчынак і ўздых падаюцца сёньня так абярэжна, як рэліквія, а сама местачковая жыдоўская традыцыя разглядаецца так уважліва, як Брэйгелеўскае палатно. Здаецца, самі беларускія жыды становяцца творамі мастацтва. Спэцыфіка жыдоўскага быту ў розных краінах Эўропы падаецца і ўспрымаецца не як прынесеная экзотыка, а як загадкавая каштоўнасьць культуры самой гэтай краіны. На Беларусі жыдоўская традыцыя выходзіць за межы нашых нацыянальных каштоўнасьцяў — на ўзровень каштоўнасьцяў агульналюдзкіх, несучы ў сабе пэўны вобраз Беларусі. Найбольш просты прыклад — Шагал. Падобна, што для заходняга эўрапейца і амэрыканца нашы жыды — як каляровыя загалоўныя літаркі ў няўцямным і шэрым фаліянце беларускай культуры. Сама ж беларуская культура, для якой яшчэ ўчора жыдоўская тэма была табу ў шэрагу прадметаў нацыянальнае сарамяжнасьці (побач з роднай мовай і сэксам), сёньня не зрабіла ў кірунку гэтае тэмы ані паўкрока.

* * *

Літва будуе сваю дзяржаву, спакваля прывучвае людзей да новых рэглямантаў і рэаліяў, да таго, што свае палітыкі, як бы ні было цяжка ў пераходны час, думаюць пра свой край і пра свой народ. За тры мінулыя гады неяк неўпрыкмет і раптам узьнік вялізны разрыў паміж тым, што зроблена для свае дзяржаўнасьці ў Літве й на Беларусі. У такім параўнаньні Беларусь тры апошнія гады пражыла ў лепшым выпадку ўпустую, у горшым — на шкоду сваёй дзяржаўнасьці.

Гэты разрыў пачаўся ад часу, калі ў Літве парлямант і ўрад канчаткова ўзялі ўсю адказнасьць за свой край і народ на сябе. Ва ўмовах гаспадарчага развалу й блізкае памяці пра саюзную «стабільнасьць» гэта быў самаахвярны крок. І парлямант і ўрад былі пакараныя за яго на ўсеагульных выбарах. Затое наступнікі прыйшлі ўжо на вызначанае месца й мусілі пераймаць непадзельную адказнасьць на сябе. І калі на папярэдніках ляжала задача разбурыць заганную сыстэму, дык на гэтых — будаваць новую Літву.

Па сутнасьці гэта тое самае, калі б на Беларусі прыйшлі да ўлады бэнээфаўскія гуманітарыі, выканалі чарнавую працу дзеля ўсталяваньня інстытутаў незалежнай дзяржавы, перетрывалі некалькі маскоўскіх эканамічных блякадаў, прыгасілі люмпэнскія інтэрфронтаўскія настроі, дамагліся гварантыяў незалежнасьці й заклалі асновы новае дзяржаўнае ідэалёгіі, за што народ, якому ад гэтага ня стала жыць лепей і весялей, на чарговых выбарах адмовіў бы ім у даверы, аддаўшы галасы за перафарбаваных камуністаў, якія лепш арыентуюцца ў гаспадарчых пытаньнях, і тыя, ва ўжо зададзеных абставінах, узяліся б за будаваньне незалежнае Беларусі.

Гэткая паралель «кульгае» сёньня на тры гады. І калі Літва стабілізуе гаспадарку й выпраўляе перагібы «нацыяналістаў», застаючыся пры гэтым Літвой, Беларусь па-ранейшаму праядаецца, прадаецца й разрабоўваецца ва ўгоду сёньняшнім кіраўнікам, якія яшчэ не пасьпелі набрацца самі й набраць дзецям, а таму падвышаюць заробкі, заніжаюць кошты й друкуюць грошы, каб яшчэ трохі пратрымацца, яшчэ трохі нажыцца, а тады — калі ня вернецца штосьці накшталт СССР — няхай скідаюць, — падаць ім будзе мякка, бо ёсьць куды, і не асудзяць, бо адказнасьць па завядзёнцы аддадзеная ў СНГ, у Маскву. Сувязі паміж рэспублікамі фатальна рвуцца, а пад лёзунгам «Ня рваць сувязі!» захоўваецца штосьці іншае — кругавая парука новых гаспадароў жыцьця.

Сярод апошніх найбольш цынічна выглядаюць калгасныя кіраўнікі. Кляса старшыняў, зь якой у Літве пакончылі адным махам, на Беларусі па-ранейшаму палохае народ і падбірае пад сябе калгаснае майно, рыхтуючыся да ролі новых паноў. Народу аб'яўляць пра магчымасьць стаць уласьнікам тады, калі ўсё будзе ўжо прыўлашчана, І запалоханы беларускі калгасьнік застанецца калі не калгасьнікам, дык ня менш запалоханым парабкам. Тымчасам у Літве, дзе новае кіраўніцтва пашырыла магчымасьці атрыманьня зямлі ва ўласнасьць, ужо ёсьць 100 тысяч уласьнікаў зямлі. Як яны жывуць без праўленьня й сельсавету?..

У Літве прыспыненая інфляцыя. Новыя грошы нагадваюць колішнія «стабільныя» рублі й капейкі. Народ ужо зьмірыўся з патрэбаю жыць «сваёй галавой». Тры гады пайшлі на ўмацаваньне надзеі. Беларусь жа пагразла ў сваёй рублёвай масе, скачуць кошты, затое пэнсіянэры езьдзяць бясплатна й тэлефоны ў горадзе бясплатныя. Але нехта ж за гэта ўсё адно плоціць! І ня толькі за гэта. Цікава — хто? І ці надоўга ў яго хопіць «купіла»?

* * *

Мэтадалягічны ключ да разуменьня беларускае гісторыі й культуры апошніх стагодзьдзяў — у слове акупацыя. Пачаўшы ў «НН» тэму гісторыі суб'екта з умоўнае тэрміналёгіі й хутчэй вобразнага асэнсаваньня мінуўшчыны, мы не маглі не прыйсьці да катэгорыяў агульнапрынятых. Тэрмін «акупацыя» (і «вытворныя» ад яго, напрыклад, калябарант, калёнія, марыянэтка...) якраз і тлумачыць многае, калі ня ўсё ў нашай гісторыі й культуры ў такіх, *прынятых* катэгорыях.

Расейская акупацыя ад канца XVIII ст. да нашых дзён — зьява настолькі аднародная ў сваіх мэтадах і сродках, што прымаць пад увагу спэцыфіку яе савецкага пэрыяду няма падставаў — гэта ўнутраная спэцыфіка расейскае імпэрыі. Для нас жа русыфікацыя, ідэалёгія, эканамічная, дэмаграфічная, канфэсійная, адміністрацыйная ды іншая палітыка за савецкім часам існавалі па сутнасьці ў тых самых формах і праявах, што ў XIX стагодзьдзі. Гэтаксама як і калябаранцтва.

Наслаеньне акупацый — расейскай, польскай, нямецкай... — прыводзіла да таго, што кожная папярэдняя рэкрутавала ў структуры ўлады людзей, распаўсюджвала сваю прапаганду, выхоўвала чарговыя пакаленьні, і вось ужо пры новай акупацыі частка насельніцтва схільная была лічыць папярэднюю акупацыю *сваёй* уладай, нацыю й канфэсію акупанта — *сваім:* нацыяй і канфэсіяй. Усё, што сёньня ведама пра новую гісторыю Беларусі да нашых дзён — гэта гісторыя калябаранцтва й змаганьня з чужым рэжымам. Пацьвярджае гэта й тая насьцярога, зь якой паспалітыя людзі паводзілі сябе зь любымі ўладамі, напрыклад, калі брала НКВД (а можа ня возьмуць, а можа пераглядзяць, а можа адпусьцяць, а можа не заб'юць) і тое самае — калі бралі дэфэнзыва ці гестапа. Пацьвярджае й тое, зь якой лёгкасьцю ўсё гэта ападае пры першай магчымасьці. Паняцьце «акупацыя» выводзіць вобраз гісторыі суб'екта на якасна іншы, рабочы ўзровень, дае інструмэнт да пераацэнкі усяе сукупнасьці гістарычных фактаў і падставу для яснага, зразумелага выкладу беларускае мінуўшчыны.

# ЖАЛІГОЎСКІ Й ЗДАНІ

## *Гутарка з Чэславам Мілашам і Томасам Венцлавам*

*— Літва — адзіны ўсходні сусед нашага краю, зь якім мы дагэтуль не падпісалі двухбаковага пагадненьня. Між іншым — з прычыны так званае справы генэрала Люцыяна Жалігоўскага. Літоўцы хацелі б, каб Польшча асудзіла яго збройную акцыю ў 1920 годзе, а польскую прысутнасьць ў гэтым месьце ў міжваенным дваццацігодзьдзі прызнала за акупацыю. Дзеля чаго, на вашу думку, выклікаецца сёньня дух генэрала Жалігоўскага?*

Чэслаў Мілаш: — Аднаўленьне гэтае справы сьведчыць, як мне здаецца, пра вельмі дрэнную, нават катастрафічную гаспадарчую сытуацыю ў Літве. У адваротным выпадку Альгірдас Бразаўскас — чалавек дастаткова інтэлігентны, каб бачыць, што палякі не падпішуць чагось такога — не высоўваў бы гэтага жаданьня. Ня йшоў бы разам зь літоўскімі нацыяналістамі. Відавочна, эканамічная сытуацыя настолькі кепская, што ён вырашыў трохі падагрэць настроі й адвярнуць увагу ад штодзённасьці. Я лічу, што сяганьне ў мінуўшчыну ў адносінах паміж народамі можа прывесьці да вельмі небясьпечных наступстваў. Гэта тое самае, што адчыніць скрыню Пандоры. Бясконцае памнажэньне ўзаемных прэтэнзій нічога добрага не прынясе. У пэўны момант трэба сказаць: хопіць — у імя павагі й супольнага дабра краінаў.

Томас Венцлава: — Я згодны з Чэславам Мілашам. Цьвяленьне старых справаў ня мае сэнсу й не складае інтарэсу літоўскае дзяржавы. Гэта мая асабістая думка, якая напэўна не адпавядае пазыцыі значнай часткі літоўцаў.

*— Пытаньне Чэславу Мілашу. Ці ў часы Вашае маладосьці ў Вільні йснаваў культ Жалігоўскага? Ці ўважалі яго за героя й шанавалі як вызвольніка места?*

— Ніхто ў Вільні не трактаваў кастрычніцкую акцыю 1920 году як акцыю толькі генэрала Жалігоўскага. Ведалі, што за ўяўным бунтам літоўска-беларускай дывізіі стаіць Пілсудзкі. Зь іншага боку ўвогуле не лічылася, што гэта быў акт мілітарны. Наадварот, людзі — у кожным разе вялізная большасьць — былі вельмі шчасьлівыя з гэтай нагоды. Дыскутуючы пра справу Вільні, трэба памятаць, што гэта быў польска-жыдоўскі горад зь нязначным працэнтам літоўцаў. А Жалігоўскі? Жалігоўскі наогул выклікаў сымпатыі. Мясцовы чалавек, які гаворыць мясцоваю моваю, «па-простаму». Аднак гэта ня быў культ героя, хутчэй, сымпатыя да прыватнай асобы.

*— Літоўцы заўсёды бачылі ў генэрале варожую постаць.*

Томас Венцлава: — Упершыню я пачуў пра Жалігоўскага падчас нямецкай акупацыі. У прынцыпе кожны літовец ведаў гэтае прозьвішча. Яно было як выклік, што адразу нагадваў пра вобраз ворага. Прапаганда незалежнай літоўскай дзяржавы міжваенных часоў будавала вобраз Жалігоўскага, як галоўнага ворага і гэта засталося ў сьвядомасьці. Памятаю таксама, што калі я хадзіў у сярэднюю школу ў Вільні, у першыя пасьляваенныя гады, сярод маіх сяброў было колькі віленскіх літоўцаў. Для іх прозьвішча Жалігоўскі было як праклён.

Жалігоўскі, бадай, заўсёды быў значна лепш вядомы ў Літве, чым у Польшчы. У Польшчы апошнім часам ён быў ужо зусім забыты, а ў Літве не. А цяпер адзіным наступствам выкліканьня духу Жалігоўскага будзе тое, што яго прозьвішча і ўся гэтая справа будуць зноў папулярныя ў Польшчы, што, бадай, не ў інтарэсах літоўскай дзяржавы.

*— Ці ведаеце вы пра тое, што ў Вільні зьявіліся плякаты з трыма прозьвішчамі: Рыбэнтроп, Молатаў, Жалігоўскі?*

Томас Венцлава: — На маю думку, гэта страшэннае глупства ставіць гэтыя прозьвішчы ў адзін шэраг. Гэта мне нагадвае, як у пачатках Саюдзісу адзін палітык публічна прыраўнаў Пілсудзкага да Сталіна й Гітлера. Лічу, што гэта было

# «Русскоязычные», «нацмены» й паходжаньне

**Зь літоўскага друку**

# TIESA

*21 ліпеня, з журналістам размаўляе мовазнаўца, прафэсар Віленскага Ўнівэрсытэту Зігмас Зінкявічус:*

**— Як зьявіліся ў нас прозьвішчы зь нелітоўскімі (найчасьцей славянскімі) элемэнтамі?**

— У канцылярыях сярэднявечных дзяржаваў карысталіся не будзённаю моваю, якую ўжывалі людзі, але распаўсюджанаю ў рэгіёне пісьмоваю. Толькі з часоў Адраджэньня ў канцылярыях уводзіліся нацыянальныя мовы. У Літве з прычыны спэцыфічных гістарычных умоваў гэта адбылося позна. У пэрыяд фармаваньня прозьвішчаў ад канца XVII ст. у канцылярыях Літвы ўжывалася пераважна старaславянская канцылярская мова, пазьней (афіцыйна з 1697 г.) яе месца заняла мова польская. Уласна гэта й паўплывала на форму нашых сучасных прозьвішчаў. Напрыклад, літоўцы называлі Пятраса сына Повіласа Пятрасам Повілайтісам (у заходняй Літве) або Повілюнасам, Повілёнісам (у Літве Сярэдняй і Ўсходняй), а ягонага сына Ёнаса — Ёнасам Пятрайтісам або Пятрунасам, Пятронісам. Канцылярысты, асабліва ў касьцельных дакумэнтах найчасьцей упісвалі ня гэтыя літоўскія формы ўласных імёнаў, але афіцыйна ўжываныя тады ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім утварэньні з канцоўкай славянскага паходжаньня -овіч (-евіч). Так атрымаліся Павіловіч (Паўловіч), Пятровіч, адсюль нашыя сучасныя прозьвішчы Повілавічюс (Паўлавічюс), Пятравічюс.

На Віленшчыне канцоўку прозьвішчаў -овіч (-евіч) замянялі больш моднай, «шляхетнай», польскай -скі (якую палякі ўжывалі здаўна, утвараючы ўласныя імёны ад назваў мясцовасьці), так Паўловіч, Пятровічператварыліся ў Паўлоўскага, Пятроўскага, зь якіх утвораныя літоўскія Паўлаўскас, Пятраўскас.

Прозьвішчы, якія паходзяць ад мянушак, часта перакладаліся на польскую мову. Шмат прыкладаў такога перакладу заключаюць у сабе кнігі рэгістрацыі хрысьцінаў і шлюбаў касьцёла сьв. Яна з пачатку XVII ст. ... Асаблівае ўвагі заслугоўвае пераклад Ожэліса на Казласа і Казлаўскаса (пісалі Казлоўскі). Гэта дазваляе зразумець, адкуль у Літве так шмат Казлаўскасаў, гэта найчасьцей спатыканае ў нас прозьвішча, носіць яго больш за паўтары тысячы сем'яў...

У міжваенным часе пры Міністэрстве ўнутраных спраў была створаная камісія вяртаньня літоўскага гучаньня прозьвішчаў, якая перадусім старалася зарэгістраваць усе існуючыя прозьвішчы. Іх запісвалі дакладна на падставе будзённае мовы, пазначалі акцэнт і інтанацыю. Гэтую працу інтэнсіўна рабілі ў трыццатыя гады. Была спраўленая картатэка, што налічвала каля 260 тыс. аркушаў. Меркавалі выдаць слоўнік прозьвішаў зь вернутым літоўскім гучаньнем, яго рэдагаваў праф. А.Саліс. Імкнуліся, каб у гэтым слоўніку прозьвішчам ня толькі было вернута літоўскае гучаньне, але каб іх гутарковыя формы былі замененыя адпаведнікамі з агульнае мовы, напр., Ажэліс папраўлена на Ожэліс, Ундрюнас — на Андрюнас, Ужолас — на Ажолас, Талмонтас — Талмантас і г.д.

Падрыхтоўка да рэформы прозьвішчаў ішла ў сувязі з плянамі выданьня новых пасьведчаньняў асобы. Аднак гэтага зрабіць не ўдалося з прычыны вайны й акупацыі. Не ўдалося таксама выдаць слоўнік (ён быў ужо ў друкарні). Прозьвішчы засталіся ў ранейшым гучаньні, за выключэньнем тых рэдкіх выпадкаў, калі людзі зьмянялі прозьвішчы па ўласнай ініцыятыве, не чакаючы спэцыяльнага закону.

**— Як вы ставіцеся да прапановы вяртаньня прозьвішчам літоўскага гучаньня сёньня?**

— Такое пытаньне трэба задаць не мовазнаўцу (гісторыку мовы), але хутчэй палітыкам. Баюся, што цяпер для такіх справаў неадпаведны час. Народ і бяз гэтага вельмі сканфрантаваны й перасвараны. Гэта было б даліваньнем алею ў агонь.

# МІНУЎШЧЫНЫ

*з польскай газэты «Rzeczpospolita»*

скандальнае параўнаньне, пра што я й паведаміў. Я сказаў і напісаў, што гэта сьмяротна абразіць палякаў — ніякага іншага выніку ня будзе. А ці абражаньне палякаў патрэбнае літоўцам, — гэта справа спрэчная, мякка кажучы. Па-другое, гэта постаці абсалютна іншага парадку. Пілсудзкі ніколі ня быў таталітарным дыктатарам. Літоўцы адрэагавалі на мае словы па-рознаму. Але я ўжо прызвычаіўся, што да маіх выказваньняў літоўцы ставяцца па-рознаму...

*— Што найважнейшае ва ўсёй гэтай справе? Сымбалі?*

Чэслаў Мілаш: — Тут ня йдзе гаворка пра якоесь польскае права на Вільню, ці жаданьне пагражаць Літве. Адмова Польшчы — непазьбежная, на маю думку — ад такога «біцьця сябе ў грудзі», мае абсалютна іншыя прычыны. Папросту рэч у тым, што ня трэба ствараць праўную сытуацыю са шматлікімі наступствамі, прынамсі ў галіне грамадзянскага права.

*— Вы мяркуеце, што адным з такіх наступстваў магло б быць непрызнаньне права ўласнасьці на зямлю, выдаванага на Віленшчыне ў міжваенным дваццацігодзьдзі польскімі ўладамі?*

Чэслаў Мілаш: — Так. Тут ідзе размова пра звычайных людзей, простых грамадзянаў, а не пра нейкія вялікія пытаньні міжнароднага права. Пра сытуацыю штодзённага жыцьця. Калі Літва афіцыйна выступіць з жаданьнем асудзіць Жалігоўскага, то жаданьне гэтае засмуціць усіх яе сяброў у Польшчы, бо яно не вядзе ні да чаго канкрэтнага. Уявім сабе, што Польшча жадае сёньня ад Расеі, каб тая прызнала проціпраўнымі падзелы нашага краю. Уявім сабе, што Расея жадае ад Францыі, каб тая асудзіла Напалеона ці ад Швэцыі, каб тая асудзіла Карла XII.

Томас Венцлава: — Зрэшты, так дзіўна складаецца, што Літва ня просіць немцаў, каб тыя перапрасілі за анэксію Клайпеды ў 1938 годзе, хоць адносіны Гітлера да літоўцаў былі горшыя, на маю думку, чым адносіны да іх польскіх уладаў. Усё так, як сказаў Чэслаў Мілаш: няма сэнсу выцягваць зь лямусу й адпыльваць гэтыя гістарычныя справы.

*— Чым гэта ўсё скончыцца? Ці можа быць так, каб справа генэрала Жалігоўскага зрабіла немагчымым падпісаньне дзяржаўнага пагадненьня?*

Чэслаў Мілаш: — Праўду кажучы, я ня вельмі гэта ўсё разумею. Для мяне выцягваньне гэтай справы літоўцамі было поўнай неспадзеўкай. Я стараўся здаўна працаваць на карысьць паяднаньня між Польшчаю й Літвой. Вельмі для мяне йстотна было, каб пытаньне польскае меншасьці не было косткай нязгоды паміж нашымі краінамі, і я рабіў у гэтай справе што мог. Палякі зь Віленшчыны абвінавачваюць мяне ў гэтым, і я там «спапялёны». Ледзьве была закрытая справа польскае аўтаномнае акругі ў Салечніках, як тут жа зьявілася чарговая гісторыя такога тыпу — гэтым разам зь літоўскага боку. Рукі апускаюцца... Вось жа Польшча ва ўсім спрыяла пачынаньням літоўскага пасьлякамуністычнага ўраду і гатовая была пайсьці на далёкасяжныя ўступкі. Але кажу: раз гаспадарчая сытуацыя крытычная, шукаецца што заўгодна — палякі, жыды, стары генэрал — для адвяртаньня ўвагі. Ня ведаю, чым гэта ўсё скончыцца.

Томас Венцлава: — Мяркую, што нарэшце трактат будзе ўсё ж падпісаны. Літва мусіць усьведамляць, што ў справе Вільні яна папросту перамагла. І гэта наша вялікая перамога — Вільня прызнаная за Літвою, і гэтая справа вырашаная бадай назаўсёды, спадзяюся. Калі б сярэдні літовец гэта разумеў, ён менш быў бы схільны да цьвяленьня, да процістаўленьня сябе суседзям. Станіслаў Стома ў адным інтэрвію для літоўскага пэрыёдыка паведаміў, што Літва мела дзьве вялікія перамогі ў XX стагодзьдзі. Перадусім была прызнаная як незалежная дзяржава, як этнічная й дзяржаўная асобнасьць — на што ў пачатку XX стагодзьдзя ўвогуле й не замахваліся. І па-другое, нарэшце атрымала сталіцу, на што таксама не замахваліся на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў. Але ж мы не ўсьведамляем сабе, што перамога на нашым баку і што ў такой сытуацыі мы маглі б сабе дазволіць быць вялікадушнымі.

Чэслаў Мілаш: — Не разумею, як Літва можа высоўваць такія дражлівыя жаданьні, калі ў выніку гэта вядзе да падрыву правоў літоўцаў на Вільню. Польшча пагадзілася з такім становішчам, прызнала правы Літвы на Вільню й ня робіць ніякіх высілкаў у кірунку рэвізіі межаў. А ўсё ж скажам шчыра, што гэтая вялікая перамога, пра якую гаварыў Венцлава, абапёртая на вельмі слушных легальных падставах. Вільня была горадам польска-жыдоўскім, Гітлер забіў жыдоў, Сталін прывёў да масавага выезду зь Вільні палякаў. Усё гэта адбылося ў выніку пакту Рыбэнтроп-Молатаў. Можа, лепей не будзіць здані мінуўшчыны, бо можна абудзіць тыя здані, якія датычаць падставаў таго, што Вільня сёньня — сталіца Літвы.

Томас Венцлава: — Увесь сьвет, і Польшча ў тым ліку, мусіць пераконваць літоўцаў, што Вільня належыць Літве. На маю думку, гэта трохі наіўна. Мяне ня трэба пераконваць, я на сто працэнтаў упэўнены, што Вільня літоўская й ніхто не адбярэ. Не адчуваю з гэтай прычыны ніякага страху, і мне нават прыемна дзяліцца Вільняю зь іншымі. Так як Парыж належыць ня толькі французам, але ўсяму сьвету, так у пэўным сэнсе й Вільня належыць ня толькі — хоць у першую чаргу — літоўцам, але таксама палякам, беларусам і жыдам, а ў выніку ўсяму сьвету. Гэта выдатная рыса для кожнага места.

*29 чэрвеня 1993 г.*

## P.S.

Праз колькі дзён пасьля гэтае размовы на сустрэчы прэм'ераў Польшчы й Літвы было вырашана, што гістарычных пытаньняў у двухбаковым пагадненьні ня будзе. Яны будуць у асобнай польска-літоўскай дэклярацыі. Словам, Літва зьняла пункт пра Жалігоўскага. І гэта яе справа. Засталіся маральнае пытаньне й нязьдзейсьнены варыянт адказу. А таксама — прэцэдэнт.

У надрукаванай вышэй гутарцы аргумэнтацыя будуецца на закліку не злаваць палякаў і на апэляцыі да вялікадушнасьці літоўцаў. Але разглядаць гісторыю па нулявым варыянце, як замкнёную «скрыню Пандоры» — у інтарэсах філязофскага спакою — можна хіба што ў філязофскіх эмпірэях. У рэальнасьці для гэтага трэба было б як мінімум забараніць гістарычную навуку й нацыянальную адукацыю, да якой сёньня дападаюць цэлыя народы. Вось тут і высьвятляецца, што ў адных тая «скрыня» пустая, а ў другіх аж трашчыць ад няшчасьцяў, бедаў ды хваробаў. Ці можна параўнаць тую нязначную маральную кампэнсацыю, якой патрабавалі літоўцы ад палякаў, з самай вялікай сатысфакцыяй, якой палякі маглі б патрабаваць ад літоўцаў?.. Для беларусаў такі прэцэдэнт, магчыма, яшчэ больш значны, чым для Літвы. Напрыклад, пры падрыхтоўцы беларуска-літоўскага пагадненьня, дзе магло б быць двухбаковае прызнаньне таго, напрыклад, што беларусы як нацыя, як культура былі фактычна выжытыя зь Вільні за гады Савецкае Літвы... Хіба не апраўданае такое прызнаньне як маральная падстава для пагадненьня? І хіба гэта ня спосаб пакласьці канец няяўнай канфрантацыі, якую спараджаюць не названыя й не пераадоленыя такім чынам факты? Хіба гэта не зраўнаньне «скрыняў» дзеля нармальных стасункаў заўтра? Здані гісторыі мусяць быць выяўленыя, а не схаваныя ў куфрах — у цёмных глыбінях чалавечых душ. Толькі тады яны зьнікнуць у рэальнасьці. У адваротным выпадку кожнага разу халадком крывадушша яны будуць прабягаць паміж двума бакамі, якія робяць выгляд добрасуседзтва, маўляў, «нічога не было» (а ў дужках: «было, было, мы ведаем, і вы ведаеце, што мы ведаем, што вы ведаеце!..»).

НН

## прозьвішчаў

# LIETUVOS AIDAS

*22 ліпеня, Валянтынас Арджюнас:*

У часе закалотаў 1917 году Расея захавала ня толькі паняцьце імпэрскае дзяржаўнасьці, але таксама й погляд на паняволеныя народы. Камуністычная дзяржава, якая абвяшчала ідылічную нацыянальную палітыку, на справе ўсяляк яе глушыла й здолела зьнішчыць не адну меншасьць. Іх пагардліва называлі «нацменамі».

У апошнія гады Гарбачова й пазьней, калі афармлялася ўжо новая Расея, зьявіліся й новыя рысы нацыянальнай палітыкі, асабліва там, дзе народы жывуць у «блізкім суседзтве». Па-першае, Расея выстаўляецца абаронцам нацыянальных меншасьцяў і блефуе гэтай картай на эўрапейскай арэне. Ад Эўропы ёй спатрэбіўся адмысловы камісар дзеля абароны нацыянальных правоў у балтыйскіх краінах. І цяпер, пакінуўшы Літву на дэсэрт, яна перажоўвае Эстонію як першую страву.

Якія нацыянальныя меншасьці бароніць Расея ў Эстоніі? Вось жа расейскамоўных! Ці хто чуў пра такую нацыю? Уласна першым заданьнем камісара мусіла б быць вызначэньне нацыянальнае меншасьці.

«Расейскамоўныя» — гэта ня нацыя; гэта вынік дэнацыяналізацыі й каланізацыі, а таму нелягічна й несумленна называць іх нацыянальнай меншасьцю. Падобным чынам Крэмаль прэтэндаваў на «апеку» над Віленшчынай: ставіў у адзін шэраг палякаў, беларусаў і тутэйшых, даючы ім раз-пораз агульную назву — славяне. Славяне таксама ня могуць складаць нацыянальную меншасьць і калі гаворыцца пра абарону правоў славян, гэта ўжо падобна да расізму.

Справы Эстоніі павінны нас цікавіць ня менш, чым уласныя. Бо гэта супольныя справы.



## Што сьпявалі ў Адамчуках?

Тапаграфіі

**Адамчукі — гэта маленькая вёска на Віленшчыне. Нават ня вёска, а некалькі хутароў-засьценкаў. Магчыма, у нейкім стагодзьдзі гэтае паселішча заснаваў якісь шляхетны Адам?**

Праз Адамчукі цячэ рэчка Віленка. Даўней ля моста кожны вечар зьбіралася моладзь на вячоркі. Пад цымбалы й бамбэнак ладзіліся танцы. На ўсю ваколіцу разносіліся сьпевы: «Пад капусту ваду нашу... Ой, разьвівайся, зялёны дубе...» Сёньня тут ужо ціха. Але жыхары Адамчукоў памятаюць свае старыя, «ад адамавых часоў», песьні: жніўныя, вясельныя, калыханкі.

Пра гэта я чуў ад розных людзей, а калі паехаў, дык і сам упэўніўся. Пазнаёміўся й разгаварыўся з паняй Альжбетай. Распытаў у яе пра ейнага брата Антона Янкоўскага, слаўнага краязнаўцу-самавука. Праз усё жыцьцё спадар Антон зьбіраў мясцовы фальклёр, сшыткі й магнітафонныя запісы дасылаў нават у Акадэмію Навук Беларусі.

У сям'і Янкоўскіх, успамінала пані Альжбета, усе былі добрымі сьпевакамі, прычым кожны меў «свае песьні», гэта знача тыя, якія найбольш любіў, найлепш сьпяваў. Я запытаўся: «А дзе ж вучыліся гэтым песьням?» «А самі праз сябе, — пачуў у адказ, — Найбольш ад бацькоў; была такая песьня «Ад веку мы спалі...» — гэтай то нехта, відаць, прыехаў, навучыў; самі песьні складалі...» Я шчыра зьдзівіўся, калі пачуў, як пані Альжбета на сымпатычны матыўчык засьпявала: «Я мужык-беларус, пан касы і сахі...» Гэтксама быў зьдзівіўшыся ў свой час ксёндз Адам Станкевіч, калі прыяжджаў да іх у Адамчукі: маўляў, усе вершы на музыку паклалі й сьпяваюць сабе.

Згадаўшы пра ксяндза Адама, мая субясэдніца тут жа ўсхапілася, дастала альбом зь сямейнымі фотакарткамі, знайшла здымак, дзе ксёндз Станкевіч стаіць у атачэньні ўсяе радзіны Янкоўскіх. Малітоўнік дастала — «Голас душы». Як навучылася тады пацерам па-беларуску, так дагэтуль іх памятае.

З паняй Альжбетай я прасядзеў-прагаварыў нямала. Пасьпявала яна, між іншым, мне і польскіх, і літоўскіх песень. Пытаюся: «А гэтым жа дзе навучыліся?» Аказалася, польскім — праз радыё. У Янкоўскіх, у адзіных на вёску было радыё — біліся за слухаўкі. Вось праз слухаўкі й навучылася модным песьням.

Літоўскім навучылася ад мужа — літовец сам быў, з-пад Гервятаў. «Ён як нап'ецца, то ўсё сьпявае...», — і, пераймаючы ягоную манэру, яна пачынае сьпяваць песьні «лясных братоў». «За іх мужыку й далі 25 гадоў»...

Сяржук Вітушка

# Кнігі, набытыя ў Менску



● **Беларускі народны каляндар. Аўтар-укладальнік Алесь Лозка. Менск, «Полымя», 1993. 205 с.**

● **Гайдук Мікола. Паратунак. Гістарычныя эсэ. Менск, «Юнацтва», 1993. 368 с.**

● **Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: мінулае й сучаснасьць. Менск, «Полымя», 1993. 206 с.**

● **Колас Якуб. Другое чытаньне для дзяцей беларусаў. Факсымільнае выданьне. Менск, «Юнацтва», 1993. 112 с.**

● **Краўцэвіч А.К., Якшук Г.М. Стары Мір. Менск, «Навука й тэхніка», 1993. 85 с.**

● **Кулагін А.М. Адраджэньне готыкі. Менск, «Полымя», 1993. 71 с. (Сэрыя «Помнікі беларускага дойлідзтва»)**

● **Мрый А. Творы. Менск, «Мастацкая літаратура», 1993. 317 с. («Спадчына»)**

● **Стэйнбэк Джон. Гронкі гневу. Раман. Менск, «Мастацкая літаратура», 1993. 504 с. (Сэрыя «Скарбы сусьветнай літаратуры»)**

● **Цеханавецкі Анджэй. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. Пераклад зь нямецкай. Менск, «Беларусь», 1993. 176 с. (Сэрыя «Сьвет пра Беларусь»)**

● **Суднік Станіслаў. Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Менск, «Тэхналёгія», 1993. 33 с.**

● **Стасевіч А., Варыўцкі С. Кароткі расейска-беларускі фізыялягічны слоўнік. Менск, «Тэхналёгія», 1993. 50 с.**

● **Глушко А., Стасевіч А., Бокун А. Расейска-беларускі хімічны слоўнік. Менск, «Тэхналёгія», 1993. 38 с.**

Выхад з друку гэтых слоўнікаў, як і шэрагу папярэдніх за апошнія пару гадоў — азнака таго, што краіна пачынае гаварыць па-беларуску, пакуль яшчэ нясьмела, толькі прымерваючыся да складанага чужамоўнага навакольля. Сёньня нават не выпадае шукаць у іх хібы й недахопы — пры ўсёй сваёй «недаведзенасьці» гэтыя слоўнікі на галаву вышэйшыя за лексыкаграфічныя гамункулюсы Інстытуту Мовазнаўства, дзе расейшчына проста перапісвалася беларускімі літарамі.

● **Радкевіч У.А., Вардамацкі Л.М., Ляшко А.А. Біялягічная тэрміналёгія і намэнклятура. Слоўнік руска-беларуска-лацінскі, беларуска-рускі. Менск, «Вышэйшая школа», 1993. 479 с.**

Слоўнік добры ў сваім ахопе, аднак начыста пазбаўлены беларускае мэтафізыкі, якою, прыкладам, да краёў быў поўны выдадзены ня так даўно «грыбны» слоўнік. З 479 старонак толькі дзевяць (!) заняў дадатак — «з народных назоваў расьліннага й жывёльнага сьвету». Ясна, што гэта й не было галоўнаю мэтаю выдаўцоў, але ж як дарэчы было б падаць хоць бы тыя народныя тэрміны, якіх шмат у БелСЭ, не марачы ўжо пра матэрыялы дыялектных слоўнікаў. Істотная хіба — адсутнасьць паказальніку лацінскіх назоваў, г. зн. мы маем толькі два ўваходы ў слоўнік — наш і расейскі. Наш сьвет зноў застаецца замкнёны ў межах «вялікай» суседняй культуры.

● **Беларуская мінуўшчына. Гісторыка-публіцыстычны ілюстраваны часопіс. 1993, №1 (1).**

Шмат тых, хто яшчэ нядаўна марыў пра гістарычны часопіс на Беларусі, цяпер расчараваныя выданьнямі такога кшталту. Вось і гэты часопіс паўстаў намэнклятурным шляхам, «летуценьнікі» не былі задзейнічаныя. Між тым, сытуацыя ў краіне ўжо іншая, а гэта значыць, што падобныя выданьні робяцца справаю дзяржаўных інстытуцыяў. Для рэдакцыі «Беларускай мінуўшчыны» ў самім працэсе падрыхтоўкі нумару ёсьць момант самаадукацыі, таму й хочацца ўсю інфармацыю данесьці да чытача па-асьветніцку. Але зьяўленьне «Беларускай мінуўшчыны» менавіта як трэцяга часопіса нароўні са «Спадчынай» і «Беларускім гістарычным часопісам» мусіць урэшце прывесьці да структураваньня сыстэмы такіх пэрыёдыкаў. Бадай толькі пры наяўнасьці выбару выданьняў кожны часопіс зможа заняць сваю нішу, а не прэтэндаваць на ўсеахопнасьць. «Беларуская мінуўшчына» заяўляе пра сябе як пра гісторыка-публіцыстычны часопіс.

● **Цітоў Анатоль. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі. — Менск: Полымя, 1993. — 239 с.: іл.**

Для савецкай гістарычнай школы на Беларусі было ўласьцівае грэбаваньне тэорыяй (пераказ дагматычных нормаў ёю ня ёсьць). Таму кніжку А.Цітова ў сэнсе падыходу да прадмета дасьледаваньня можна лічыць прарывам: пастаўленыя пытаньні сутнасьці інстытуту пячаткі як сродка легалізацыі дакумэнта, разгледжанае сілігічнае заканадаўства.

Так здарылася, што фактычна адначасова ў менскіх кнігарнях зьявілася кніжка пра расейскія пячаткі (Соболева Н.А. Русские печати. — Москва: Наука, 1991. — 240 с.). І яна выкананая на значна больш высокім мэтадалягічным узроўні, функцыянаваньне пячатак у Маскоўіі паказанае на фоне эвалюцыі прававога статусу пячатак у сярэднявечнай Эўропе ў цэлым.

Ствараецца даволі парадаксальная сытуацыя — беларускі дасьледнік сфрагістыкі мае справу з тыпова эўрапейскаю зьяваю як па фармальных прыкметах (геральдыка, да прыкладу), так і па сутнасных (пячатка як інструмэнт ажыцьцяўленьня маёмасных спраў прыватных асобаў, а ня толькі ўласьцівасьць уладароў), але ўласна эўрапейскага кантэксту кніжка не ставае. Расейскія ж дасьледнікі грунтоўна ведаюць эўрапейскую сфрагістыку й імкнуцца неяк чынам прышчапіць да яе маскоўскую.

Падобныя заўвагі ў значнай ступені здымаюцца падназваю — «Нарысы сфрагістыкі». Акрамя таго, у другой палове XX ст. гэта першая (!) кніжка на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі ўласна па сфрагістыцы (на эміграцыі гэтым займаўся М.Белямук — Вытокі беларускіх пячаткаў. Клыўленд, Огае, 1986).

Таму лягічна, што дасьледаваньне А.Цітова мае пэўны агляды характар, яна больш — каталёг пячатак. Але каталёг няпоўны. З ужо друкаваных раней пячатак ня ўсе зьмешчаныя аўтарам у дадзеным выданьні. Асабліва гэта тычыцца вялікакняскіх пячатак. Але аўтар фактычна ўвёў ва ўжытак значную колькасьць новых помнікаў, прычым расшуканых ім самім, што робіць кніжку унікальнай. Унікальнасьці спрыяе й застрашальны надпіс, зь якога пачынаецца кніжка: «Фотаздымкі й малюнкі аўтара, рэпрадукаваньне забаронена».

Цяпер можна перайсьці й да пытаньня тэрміналёгіі, фантомнага для нас. Беларусы ўжо здолелі прыватызаваць прастору ВКЛ, зьявіліся тэндэнцыі не дзяліцца ёю зь літоўцамі, чаму можа спрыяць да канца прынцыповае ўжываньне нэалягізмаў «Летува» й «Беларусь» у сэнсе іх перанясеньня на сярэднявечча ў сёньняшнім разуменьні. Паміж двума гісторыяграфіямі ствараецца канфлікт. Кніжка А.Цітова мае выразны назоў — «Пячаткі старажытнае Беларусі». Але прыватызацыю спадчыны ВКЛ аўтар правёў вельмі яксана, разбураўшы межы паміж дзьвюма культурнымі сытуацыямі й прыняўшы старабеларускую тэрміналёгію ("Канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага", "згубы з фальшэрства пячатак" і г.д.) Архаізмы/гістарызмы цалкам прыдатныя для спэцыялізаванай лексыкі беларусаў. Тым самым недзе выводзіцца са спрэчнае сфэры праблема афіцыйнай мовы ВКЛ (у трактоўцы яе як Праблемы ў Літве).

Да тэхнічных нюансаў кнігі варта адзначыць адсутнасьць абвешчанага ў Зьмесьце Геаграфічнага паказальніка.



# ПАСЬЛЯ БУНТУ

● **АДАМОВІЧ Славамір. Зямля Ханан: Вершы. — Полацак: Полацкае ляда, 1993. — 48 с. Наклад 600.**

● **АРКУШ Алесь. Крылыператворацца ў карэньні: Вершы. — Полацак: Полацкае ляда, 1993. — 48 с. Наклад 600.**

● **ГУМЯНЮК Юры. Водар цела (псыхадэлічнае мастацтва): Вершы. — Полацак: Полацкае ляда, 1993. — 48 с. Наклад 600.**

Тры зборнікі паэзіі з Полацку нічым не саступаюць падобным выданьням манапаліста «МЛ». Наадварот. Самое іх зьяўленьне магло быць апраўданае толькі лепшаю, іншаю якасьцю, — і яно апраўданае. Бо незалежнаму выдаўцу не было б сэнсу высільвацца, калі б ён ня прагнуў зьдзівіць сьвет, ня меў свае канструктыўнае праграмы й ня верыў у вартасьці паэтычнага слова. Бо такія кніжкі ніяк не прызначаныя для летаргіі на крамнай паліцы, яны лезуць на ўсе дзіры, рухаюцца, г.зн. жывуць. Бо такой літаратуры забясьпечаныя прачытаньне й рэальны водгук чытачоў. Бо, нарэшце, гэта тыя аўтары, якія з посьпехам маглі б выдавацца і ў «МЛ», але не схацелі чакаць 3—5 гадоў, не пасьпелі прызвычаіцца да «адзінага гаспадара», не згадзіліся на праўкі й г.д. Беларуская паэзія ў гэтых кніжках выявіла сябе як суб'ект — ужо не яе выбіралі, а яна сама выбірала — куды, з кім і як.

Усё гэта нагадвае сытуацыю нядаўніх часоў, калі «моладзь» раптам «не пайшла ў ВНУ». Раней інстытут быў найбольш вартым і годным варыянтам уладкаваньня ў жыцьці — набыду кваліфікацыю, паступлю на працу, займу сваё месца ў Сыстэме. І толькі некаторыя *паэты*, паэтычныя ўвогуле натуры, ехалі куды-небудзь з геолягамі ў Сыбір ці на рыбапромысел у Эстонію, каб стаць для іншых, для сваіх «стандартных» раўналеткаў, рамантычнымі героямі кніг і фільмаў. На самсправе гэта быў бунт *паэтаў* супраць кваліфікацыі.

У сыстэме літаратуры месца ВНУ займаў і яшчэ займае рэдакцыйна-выдавецкі інстытут. Пачатковец-паэт прыходзіць на месца праўшчыка чужых вершаў і ў трупехлай атмасфэры рэдакцыі пад наглядам старэйшых таварышаў набывае кваліфікацыю — што й як пісаць, што з чым рыфмаваць, што не пісаць наогул — але страчвае свой вобраз і ператвараецца ў іміТатара, эпігона «вядучых» паэтаў і сябе-пачаткоўца. Яблыня беларускае паэзіі выглядае ненатуральна, бо плады яе — зморшчаныя ад часу, але ўсё яшчэ нясьпелыя й зялёныя — учэпіста трымаюцца за галінкі структуры.

Першыя зборнікі — заяўкі на вобраз. Іх мноства, але неакрэсьлыя відмы эвэнтуальных паэзій не складаюць зь іх сьпелага суквецьця, таму тут і пэнсыянэра могуць назваць маладым, таму тут да пэнсіі кожны піша «шматабяцальныя» вершы. Наступныя зборнікі ўжо мала хто чытае, бо там пайшла кваліфікацыя, якая ўніфікуе вобразы, робіць паэзію дэманстратыўна дазволенай і дэкаратыўнай. Бунт супраць яе на аварыйна перапоўненым караблі манапаліста пачаўся ў канцы 80-х і скончыўся тым, што некаторыя бунтаўнікі пакінулі яго і, выбраўшы альтэрнатыву кваліфікацыі — тварэньне вобразу — будуюць свае караблі.

Нішто ня скоўвае іхняга суб'ектывізму. Іх паэзія не падладжваецца пад прынятыя догмы жанру (ня кажучы

# «ПАТРЫЯТЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯГРАФІЯ»

**Генадзь Сагановіч**

Штосьці нядобрае робіцца цяпер зь беларускай гісторыяграфіяй. Дакладней, з гістарычнай літаратурай, бо далёка ня кожнае выданьне мае дачыненьне да гісторыяграфіі. Усё пераблытваецца, перамешваецца, страчвае свае ўласьцівасьці й утварае агульную шэрую плынь, у якой і патанае тое, што называецца гісторыяграфіяй; плынь, для якой не йснуе ані жанравай, ані профільнай формы, для якой няма даўно прынятых у навуцы нормаў і правілаў.

Гэтак, прыкладам, цяпер можна набыць «вучэбнае» ўнівэрсытэцкае выданьне «Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы й права Беларусі», але так і не знайсьці ў ім таго, што магло б стаць навукаю. Нават яснага тлумачэньня, што ёсьць дзяржава і што ёсьць права, нават літаратуры па гэтай праблеме. Затое спрэс — агульныя развагі пра агульныя падзеі, паўтор таго, што даўным-даўна расьпісана ў проста «Гісторыі БССР».

Цяпер можна, купіўшы якую акадэмічную кнігу па гісторыі сярэднявечнай Беларусі, уважліва ўчытвацца ў тэкст, названы, прыкладам, «Станаўленьне нацыянальнай самасьвядомасьці», і не знаходзіць там ні «станаўленьня», ні сьвядомасьці, ні нават яе азначэньня. А ў «навуковым і навукова-мэтадычным» «Беларускім гістарычным часопісе» — спатыкаць спрэс ненавуковыя й наагул нечасопісныя публікацыі. Хоць рэдактар гэтага часопіса ў праграмным артыкуле й абяцаў «арыентавацца» й на навукоўцаў, ягоны зьмест школьны, краязнаўчы. Што ўжо казаць пра газэты! Гісторыю на іх старонках звычайна ўвасабляе танная спэкуляцыя на гістарычную тэму.

Чаму так адбываецца? Думаю, першаю прычынай тут — рэальная сытуацыя, у якой апынулася наша гісторыяграфія, стан сёнага разьвіцьця (неларазьвіцьця). І тое, што гісторыкаў (якіх мала) заступаюць далёкія ад гісторыі асобы. Фармалізм, скажаце, пасьведчаньні й дыплёмы нічога не вырашаюць. Не, справа не ў фармальнасьцях, але ў прафэсіяналізме й кампэтэнтыі аўтараў.

Ёсьць уяўныя супольнасьці лекараў, настаўнікаў, партыйных функцыянэраў. Яднае іх якраз прафэсіяналізм. Бухгальтар ня будзе заступаць лекара, а сакратар абкаму не правядзе добрага ўроку, і гэта — па ўсім зразумелых прычынах. І толькі пісаць гісторыю заўсёды знаходзяцца хутчэй негісторыкі. Маю на ўвазе зусім не дыплёмна-кабінэтную прыналежнасьць да гістарычных факультэтаў ці інстытутаў. Ёсьць правілы, ігнаруючы якія й самы высокі чыноўнік ад навукі будзе займацца марным дылетанцтвам. Як гэта ні банальна гучыць, але гісторык мусіць карыстацца агульнымі мэтадамі пазнаньня (прынамсі — мэтадамі) ды моваю навукі. Ужо гэтым ён адрозьніваецца ад прапагандыста й дэмагога. Справа першага — пазнаньне (зразуменьне) мінулага, ставарэньне новых ведаў аб ім, тады як другі зусім не пазнае, а толькі ацэньвае, уціскае ў шаблёны патрэбнае схемы, стварае ідэалёгію. Каб быць новымі ведамі, цьверджаньні гісторыка мусяць грунтавацца на крыніцах, сьведчаньнях. І каб нешта сьцьвярджаць, гісторык мусіць спачатку правесьці дасьледаваньне, аналіз ды аргумэнтаваць праўдзівасьць свайго цьверджаньня.

Вось жа нічога гэтага не патрабуецца прапагандысту, негісторыку, будзем казаць — дылетанту. Таму ён аднолькава ўпэўнены і на мітынгу, і на старонках гістарычнага часопіса. Яго нічога ня стрымлівае, нават этыка, бо прафэсійную этыку ведае толькі прафэсіянал. Так і даходзіць да агульнае плыні, у якой вялізнымі бурбалкамі растуць новыя міты, зь лёгкасьцю мяняюцца ацэнкі, праводзяцца межы. Некаторыя кажуць, што гэтак яны ствараюць «патрыятычную гісторыяграфію». Але такі прынцып пісаньня гісторыі занадта просты: чым больш патрыятызму — тым лепш. Так можна напісаць гісторыю найлепшай у сьвеце краіны, толькі яна ня будзе мець аніякага дачыненьня да Беларусі.

Стараньнямі негісторыкаў у друку пашыраюцца сэнсацыйныя гістарычныя «адкрыцьці». То яны паведамляюць, што дзяржаўнасьць на Беларусі была яшчэ ў эпоху бронзавага веку («Полацак») і абвяшчаюць Полацкае княства першай у Эўропе рэспублікай («Беларускі гістарычны часопіс»), то высьвятляюць, што акт Крэўскай вуніі сфальшаваны палякамі, што Люблінская вунія ня мела ніякага значэньня, а Вялікае Княства Літоўскае, гэтая слабацэнтралізаваная поліэтнічная дзяржава з выключнымі для Эўропы талеранцыяй і дэмакратычным ладам, было «беларускай імпэрыяй» («100 пытаньняў і адказаў зь беларускай гісторыі»)...

Аўтары гэтых мітаў сьцьвярджаюць, што робяць свае высновы на падставе «аналізу ўсёй сукупнасьці гістарычных фактаў»...

Калі б тое казалі будаўнікі ці дзеці на пляцоўцы — не было б клопату. Бо які клопат матэматыку з таго, што дзіцё напісала недзе «2+2=5»! Але ж тут маем справу зь людзьмі вучонымі, з аўтарамі тоўстых кніжак.

Прасьцей было б пасьмяяцца ды не праймацца. Але рэч у тым, што сьмяюцца, дзякуючы «патрыятычнай гісторыяграфіі», з нас. Сьмяюцца зь беларускіх гісторыкаў наогул.

Вядома, усё мае права на сваё месца пад сонцам, але ж і называцца ўсё мусіць сваім назовам: навука — навукай, прапаганда — прапагандай, а прафанацыя — прафанацыяй.





ўжо — ідэалёгіі), што раней было ўмовай выданьня, і нават не процістаўляецца ім, што было крыху пазьней, а ігнаруе іх. Для Адамовіча, Аркуша й Гуменюка пераход «да другой кніжкі» стаў разьвіцьцём свайго вобразу, бяз стратаў на карысьць прынятых догмаў. Прычым гэты пераход аднолькава ўдала адолелі тры зусім розныя вобразы. Адамовіч — «дзікі» паэт (дзікі ў сэнсе — ня свойскі, ня хатні, не прыручаны). Гэта той прыклад, калі праз паэта прамаўляе штосьці непараўнальна большае, чым ён сам. Ён толькі праваднік, які ня вольны рацыянальна ўмешвацца са сваім *ratio* ў тое, што дыктуе яму прырода. Яго кніжка — анталягічная, гэта кніжка году, рэальны набытак паэзіі. Аркуш наадварот — «кніжны» паэт, ён сам творыць прастору свайго вобразу, ён валодае ім і сваёй эмацыйнай прыродай, ён ведае, што й як напіша, чаго хоча й на што здатны. Ягоная кніжка — значная на прасторы ягонага вобразу й для тых, хто разважае над вершамі, цэнячы найперш іх інтэлектуальныя вартасьці. Гумянюк — «модны» пачатковец, ён хоча пакуль яшчэ больш, чым можа. Ягоная кніжка шмат бы страціла, каб выйшла бяз дзьвюх першых.

Кажуць, што тры кніжкі з Полацку — гэта пачатак сэрыі, што задумана 15 выпускаў. У такім праекце закладзены яшчэ адзін творчы акт, раўназначны самой паэзіі — тое, чаго ня можа сабе дазволіць і не змагла б ацаніць манаполія — камбінацыя паэтычных кніжак. Прынамсі ў дадзеным выпадку гэты акт адбыўся.

Аглядальнік.

# МАТЭМАТЫКА ЦЬВІКЕВІЧА

## *Што замінае ўсім беларусам на Беларусі перайсьці на беларускую мову?*

Алесь Кебік

Беларускае адраджэньне, пачаўшыся каторы раз, чэзьне ў аматарстве і ўсьвсдамленьні свае нямасавасьці, перад бар'ерам, які аддзяляе яго ад народу, варыцца ва ўласным соку й пакаленьне за пакаленьнем сыходзіць у цень дэпрэсіі. Дзяржаўнасьць мовы і экстэнсыўнае прырашчэньне кадраў суцяшаюць мала й ненадоўга. Росквіт душаў і сэрцаў усё часьцей зьмяняецца філязофскім смуткам аб лёсе нацыі — што рабіць, маўляў, калі гэткае жыцьцё, гэткія мы, гэткі Бог! Але смутак нічога не тлумачыць і сам па сабе ўжо ня ёсьць адраджэньнем. Павінна быць нейкае рацыянальнае вытлумачэньне такой сытуацыі, якая ня ўзялася зь нічога й мае сваю рэтраспэктыву, свае вытокі й тыпалёгію праяваў. З амаль матэматычнаю лёгікай падыходзіць да яе на старонках сваёй «"Западно-русской" школы» Аляксандар Цьвікевіч:

**«Крытычным недахопам беларусафілаў з польскай культурай было тое, што яны прыходзілі да Беларусі з мэтай адарваць яе культурна й палітычна** *для Польшчы*, **тымчасам як беларусафілы, што выходзілі з расейскай культуры, што канчалі расейскі ўнівэрсытэт, пісалі й думалі па-расейску, але адчувалі па-беларуску, мусілі акрасьляць і адрываць Беларусь ад Расеі** *для Беларусі*. **Калі Шпілеўскі й Кіркор аднолькава думалі, што беларуская мова ёсьць дыялект, — для першага расейскае, а для другога польскае мовы, дык перавага Шпілеўскага была ў тым, што для прызнаньня беларускае мовы ён павінен быў зрабіць адзін крок, а Кіркор два крокі. Расейская культура была прызнаная, расейская культура была дзяржаўна забясьпечаная, і рэакцыя да яе зь мясцовага пункту гледжаньня прыводзіла беспасрэдна да прызнаньня мовы беларускай, тымчасам як польская культура была падбітая, польская мова ня мела дзяржаўнага прызнаньня, і толькі пасьля падобнага прызнаньня магла выклікаць рэакцыю ў форме прызнаньня мовы беларускай, як мясцовага зьявішча. На баку беларусаў польскае культуры была, праўда, адна непараўнаўчая адзнака, — гэта іх рэвалюцыйнасьць, іх знаёмства з рэвалюцыйна-народніцкай, сацыялістычнай тэорыяй, ідэёвая блізкасьць да нацыянальна-рэвалюцыйнай барацьбы й нацыянальнага самавызначэньня на захадзе, у краінах славянскіх і ў Італіі, дзе Гарыбальдзі й Мазіні паднімалі сьцяг дзяржаўнага вызваленьня ласьне на нацыянальнай аснове, і дзе чэхі ды іншыя заходнепаўднёвыя славяне змагаліся за свае непрызнаныя нацыянальныя правы. Але ў беларусафілаў з польскага боку гэтая рэвалюцыйна-народніцкая плынь была вельмі слабая, — можа, адзін Каліноўскі быў у гэтым сэнсе шчасьлівым выключэньнем, калі лічыць недаведзеным, што ён быў сьвядомым нацыянальна-беларускім барацьбітом. Рэшта іх зьяўлялася проста інтэлігентамі, краёвымі патрыётамі-этнографамі, і беларускага пытаньня ў разрэзе сацыяльным і рэвалюцыйна-нацыянальным ставіць не маглі, — яшчэ не прысьпеў на тое час.**

**У гэтых, калі можна так выказацца, тактычных пазыцыях, залежных ад гістарычных і сацыяльных варункаў, была схована галоўная прычына, у зьвязку зь якой параўнаўча больш сьвядомыя беларусафілы польскае культуры не маглі стварыць на Беларусі ў тыя гады шырэйшага нацыянальна-масавага руху. Таксама, як у свой час на Украіне, яны маглі разьвіваць «балагульшчыну» і «хлопаманію», маглі быць (і былі) тым брадзілам, што падрывала ў мясцовага жыхарства давер да расейскага самаўладзтва і ставіла пад знак запытаньня правы Расеі на Беларусь, якія ў выніку сваёй творчай дзейнасьцю нішчылі тут расейскі культурны ўплыў і расейскую культурную традыцыю, — але самастойным фактарам у нацыянальным вызначэньні Беларусі быць не маглі. Ні беларускі Шаўчэнка, ні беларускі Драгаманаў з шэрагаў шубраўцаў, філяматаў, супрацоўнікаў віленскага музэю і ўсяе пляяды віленскіх работнікаў у 40-50-х гг. выйсьці не маглі.**

**У Шпілеўскага, Насовіча (у першы пэрыяд яго працы) ды інш. становішча было ў гэтым сэнсе выгаднейшым. Для іх не йснаваў арэол паднявоженай Польшчы, яны не былі захопленыя яе гераічнай барацьбой за вызваленьне, і таму прыход іх да беларушчыны быў тэарэтычна лягчэйшы. Іх лібэралізм і любоў да Беларусі павінны былі перамагчы толькі гіпноз вялікай імпэрыі й фэтыш праваслаўя, — і яны траплялі беспасрэдна на беларускі шлях. У 40-50-х гадох падобны адыход ня быў для беларускага інтэлігента расейскай культуры немагчымы: не забудзьма, што яшчэ ў праграме кірыла-мэтодыеўскага брацтва Беларусь была прызнаваная, як асобны штат агульна-славянскае фэдэрацыі, побач з расейскім, украінскім, польскім, чэскім і г.д., што Бакунін у сваіх лістох да брацьцяў славян прызнаваў за Беларусьсю самастойнае месца, як незалежнай дзяржавы, што падобныя правы прызнаваў Герцэн, што Надеждин акрэсьлена выдзяляў беларускую мову як самастойную славянскую мову разам з украінскай і польскай і г.д. Ідэя беларускага культурнага адраджэньня лунала ў канцы 50-х і ў самым пачатку 60-х гадоў у паветры і знаходзіла моцны адгалосак у агульным грамадзка-культурным уздыме ў Расеі, асабліва ў сувязі з моцным нацыянальным рухам на Ўкраіне. Падняўшая галаву рэакцыя і мураўёўскі тэрор разам з польскім паўстаньнем задушылі яе далейшае разьвіцьцё».**

Лёгіка А.Цьвікевіча, высnаваная з сытуацыі сярэдзіны XIX ст., можа быць прыкладзеная й да ўсіх наступных спробаў беларускага адраджэньня й незалежніцтва. Сапраўды, галоўным штуршком і адпраўным пунктам беларускага нацыяналізму сталі ня працы Шпілеўскага й Насовіча, а лісткі Каліноўскага й творы Багушэвіча — выхаванцаў польска-каталіцкага асяродзьдзя. Такім чынам, аснова, паводле Цьвікевіча, была ня «першай», а «другой стрэчы», — адпаведна, не непасрэдная й не трывалая. Купала пачынаў па-польску, Колас — па-расейску. Купала лічыцца ідэолягам беларускага нацыяналізму, Колас — не. Але паспалітаму чытачу «Новая зямля» безумоўна бліжэйшая за насьледаваньні Ст.Пшыбышэўскаму. Купала выказвае нацыянальную ідэю ў рэвалюцыйнай форме (на польскі ўзор), а Колас — «любіць свой край».

Зразумела, у гэткай лёгіцы ёсьць пэўнае спрашчэньне характарыстык. Але дазволім сабе такую лёгіку, і мы ўбачым, што яна пункцірам праходзіць праз увесь беларускі рух і сягае ў наш сёньняшні дзень.

Паміж іншым, згадаем тытанічныя высілкі палітызаваных беларускіх ксяндзоў міжваеннага часу й іх неадэкватна мізэрны плён. Бадай, калі б усё тое можна было сказаць пра папоў... Згадаем, зь якой адназначнасьцю трымаюцца беластоцкія беларусы за праваслаўе як за сваю нацыянальную тоеснасьць. Згадаем праваслаўную царкву беларускіх эмігрантаў у Амэрыцы й тое, што беларускага касьцёлу ў іх няма...

На рэлігійным грунце (а на Беларусі ён спрэс атаясамліваецца з нацыянальнасьцю: каталік — паляк, праваслаўны — беларус) формула А.Цьвікевіча «працуе» зусім беспамылкова. Бо выхад беларушчыны з праваслаўя вядзе да аўтакефаліі, да прыраўнаньня сябе вышэйшым праваслаўным ерархам — расейцам. Выхад жа з касьцёлу ніяк не азначае зьмену кіравецтва — рымскага ерарха. Тут увесь час даводзіцца «лукавіць» і рабіць выгляд, што нацыянальнасьць «ні пры чым», што ўжо ня першае стагодзьдзе робіць Польшча, бо самі палякі даўно ўжо вырашылі для сябе, што беларус-каталік — гэта паляк.

Цяпер — як гэта выглядае ў сфэры чыста нацыянальнай. Расея — цела, зь якога Беларусі трэба вылучыцца асобным целам. Польшча — цела, якое само вылучаецца і зь якога трэба вылучацца яшчэ й нам. Г.зн., думай, як пераскочыць разам з Польшчай, а пасьля — яшчэ ад Польшчы. Для статычнае народнае сьвядомасьці два бар'еры — зашмат. І пераадолеўшы першы, яна засядае, спыняецца на дасягнутым.

# СТАРЫ ХРОСТ

## *Спэцыфіка беларускага праваслаўя — уніяцтва*

Антон Сіюль

Візантыйская культура патрапіла на Беларусь напрыканцы X ст., маючы пад сабой тысячагадовую традыцыю. А ўжо праз паўтара стагодзьдзя яна была тут ня толькі засвоеная, але пачалася яе трансфармацыя. Сталае варагаваньне Полацку з Кіевам змушала весьці самастойны дыялёг з блізкай ужо да збуцьвеньня «звышцывілізацыяй» Візантыі. Прыкладам, царква Дабравешчаньня (XII ст.) у Віцебску была вымураваная яшчэ візантыйскімі дойлідамі ў той час, калі на беларускіх землях ужо пачалася грунтоўная перапрацоўка першаўзораў і стварэньне ўласнага архітэктурнага кшталту. Так полацкія дойліды ствараюць тып бажніцаў дынамічнае кампазыцыі, моцна сцэнтраванай на вежападобным барабане цэнтральнага кумпалу, выцягваюць агульны плян царквы, набліжаючы яе да эўрапейскіх базылікаў, пераносяць падкумпальную прастору на заходнія слупы, пакідаючы часам толькі адну аўтарную абсіду. Нічога гэтага не было ані ў Візантыі, ані ў Кіеве.

Яшчэ далей пайшлі гарадзенскія майстры, прапанаваўшы арыгінальны спосаб аздабленьня фасадаў рознакаляровымі камянямі й паліванаю керамікай, круглыя слупы й нетынкаваныя адтуліны галасьнікоў, што ўтваралі частку скляпеньняў у інтэр'еры. Бадай, гэта сьведчаньне пэўнай «фальклярызацыі» культавае культуры. Таксама адметныя былі цэрквы ў Тураве й асабліва ў Менску (канец XI ст.). Менская недабудаваная бажніца па тэхніцы будаўніцтва наогул ня мае аналягаў ані ў суседніх краінах, ані ў далёкай Візантыі.

Захоп азіятамі Ўкраіны й Расеі, а пазьней і падзеньне Канстантынопалю ў 1453 г. паставіла Беларусь у становішча выспы, дзе разьвівалася непарыўная традыцыя ўсходняе царквы. Гэта час найвышэйшага ўзьлёту праваслаўнае культуры на Беларусі (XV ст.). Тут ствараецца выключная ў Эўропе архітэктурная плынь праваслаўнае готыкі. Цэрквы-крэпасьці ў Сынковічах, Мураванцы, Супрасьлі ня маюць стылістычных аналягаў. Усходні канон быў перапрацаваны начыста, а канструктыўныя асаблівасьці сьмела кампіляваліся з сучаснымі эўрапейскімі ўзорамі.

Больш кансэрватыўным заставаўся манумэнтальны жывапіс, але і ў ім адбіваліся надзённыя тэалягічныя праблемы. Напрыклад, у фрэсках Супрасьльскае царквы на плячох у апосталаў — біскупскія амафоры. Такое парушэньне канону было адказам ерэтыкам, што адмаўлялі сьвятасьць зямной гіерархіі й процістаўлялі першаапостальскія запаветы патрэбам сучаснае ім царквы. Апроч гэтага, і само адзеньне сьвятых і зброя ваяроў адпавядаюць тагачасным эўрапейскім.

Па гіроніі лёсу фрэскі беларускіх майстроў на візантыйскі кшталт добра захаваліся толькі ў Польшчы: у капліцы Сьв. Тройцы ў Люблінскім замку, у капліцах Сьв. Тройцы і Сьв. Крыжа на Вавэлю ды інш.

У заходнім кірунку йшла канвэргенцыя і ў іконапісе. Калі ў XIV, XV стст. беларускія абразы блізка адпавядаюць усходнім канонам (часам ствараюцца нават выбітныя ўзоры накшталт «Маці Божае Ерузалімскае» зь Ляшчынскага манастыра, цяпер — у Варварынскай царкве ў Пінску), дык у XVI ст. гэтыя каноны фактычна ігнаруюцца. Калі памянёны абраз яшчэ нясе ў сабе сьвятло позьнепалеолагаўскага адраджэньня і нагадвае пэндзаль Дзіянісія, дык абраз «Маці Божай Менскай» (XVI ст.) выкананы ўжо ў эўрапейскай традыцыі. Яе вобраз пэрсаніфікаваны, адрынута адваротная пэрспэктыва, лякальную паліхромію зьмяніла сьветамадэліроўка. Беларускія абразы паступова адыходзілі ад суворага канону, тыпажы сталі вальнейшыя, як і кампазыцыя, і дэталі. Красамоўны прыклад — «Баркулабаўская Маці Божая» з Быхава, пісаная нібы зь местачковае маладзіцы-жыдоўкі...

Канчатковы выбар на карысьць заходняе арыентацыі быў зроблены Скарынам. Гэта заўважыў яшчэ А.Курбскі, які пісаў, што плён Скарынавай працы паводле духу пратэстанцкі, а біскуп Антоні Сялява ўжо ў XVII ст. называў Скарыну «гусіцкім ерэтыком», антытрынітарам і згадаў пра яго папулярнасьць сярод праваслаўных.

Між тым у Маскве кнігі Скарыны й яго пасьлядоўнікаў «не пайшлі», бо яны былі «не такія». Масква абрала свой шлях эвалюцыі царкоўнага жыцьця. Ератык Башкін на допыце паказваў, што «злое ученіе... принял от Литвы». Расейскія бажніцы, завершаныя цыбулінамі розных памераў, сымбалізавалі полымя сьвечаў, гарэньне на зямлі ў імя Бога. Гэты дэкаратыўны матыў, як і іншыя, кшталту шатровых званіцаў, быў пераняты зь





Гутарка не пра той народ, які сапраўды набожны й пільнуецца сьвятцаў. Гэты народ, як паказвае статыстыка, ахватней ідзе сёньня ў пратэстанты. Гутарка пра тую большасьць беларусаў, якая па традыцыі хрысьціць дзяцей, па традыцыі трымае ў хаце абразок і на Радуніцу па традыцыі прыбірае магілы сваякоў, але на гэтым уся «рэлігійнасьць» і скончваецца. Гутарка хутчэй пра «беларускія народныя традыцыі», а не пра царкоўны абрад. Гутарка, нарэшце, пра «беларускі ўзор» незалежніцтва, які мусіць высьпець з гэтых «народных традыцый», і які сёньня застаецца ў іх на ўзроўні сувэнірнага Купальля й саламяных несьцеркаў.

Беларушчына вылучаецца з расейшчыны як сьцьверджаньне, як пазыцыя, з пальшчызны — як адмаўленьне, як апазыцыя. Апошняе, вядома, больш прывабнае для моладзі, якая прагне рэвалюцыйных скачкоў, ня надта думаючы пра далёкі вынік. І потым — ад чаго адштурхоўвацца? Пальшчызна, яе лад выглядаюць больш цывілізавана, дык што ж — адштурхоўвацца ад цывілізацыі, ад Эўропы — у бок нецывілізаванасьці? Расейшчына прадстаўленая ўсім спэктрам — ад вышыняў духу да дзікунства ўсяго астатняга ладу. Сам расейскі патрыятызм дзікунскі, Отечество дзікунскае, а звышкансэрватыўнае адмаўленьне ўсяго «неистиннорусского» не дазваляе беларускаму адраджэнству ў чэраве гэтай культуры разьвіцца да тае кандыцыі, да якой гэта можна зрабіць у чэраве культуры польскай. Таму моладзь, выхаваная ў расейскім асяродку, рэкрутуецца ў беларушчыну праз польскі ўзор адмаўленьня.

Магія ўзору настолькі моцная, а самасьць нацыянальнае йдэі настолькі слабая, што й «даросьлыя» сучасныя адраджэнцы зьбіваюцца на гэты атавістычны «польскі» шлях (спачатку гэта можа быць нават падсьвядомае адкрыцьцё для сябе яшчэ ўчора зусім невядомай культуры, якая, аказваецца, такая блізкая і мы тут увесь час побач, і — мы ўжо ў рэчышчы), а ўсё нацыянальнае адраджэньне зноў залазіць у гэты апазыцыйны апэндыкс, каб наталіўшыся тактычнымі экзэрсісамі, адчуць раптам расчараваньне. Высновы, паводле лёгікі Цьвікевіча, выглядаюць так:

Фактычна ўся нацыянальная беларуская традыцыя адраджэнства й незалежніцтва складалася ў нас выхадцамі з польскае культуры й на ўзор польскае традыцыі. Польшча давала нам такі ўзор, але пры гэтым каварна палянізавала (пра каварнасьць піша І.Абдзіраловіч). Расея нас калянізавала і, зразумела, не давала ніякіх узораў барацьбы за незалежнасьць. Польскі прыклад запальваў, але й трымаў у сваім полі. Мы дзеялі ў зададзеным узоры, паводле польскіх мэтодык, а канчатковая мэта была няясная. Яна мусіла быць іншай ад польскай, але ніякай іншай у польскім узоры не было й не магло быць. Мы дагэтуль зусім цьмяна ўяўляем сабе, што такое наша канчатковая мэта — незалежная Беларусь. Бо захопленыя польскім тактычным трафарэтам за гэтыя два стагодзьдзі мы так і не напрацавалі свае стратэгіі.

Польскі ўзор дыктуе беларускай ідэі стабільную апазыцыйнасьць, несьцьвярджальнасьць. Але дзе ж выйсьце на пазытыў? Грунт для яго трэба шукаць у самой прыродзе беларушчыны. Беларусь-каталічка (палітызаваная незалежніца) адваёўвае ў пальшчызны тое, што сама ад гэтае пальшчызны й атрымала — узор нацыяналізму. А Беларусь-праваслаўная амаль ня рыпаецца ў бок расейшчыны па тое, што ў яе расейшчына адабрала (клерыкальны аспэкт тут можа разглядацца, як мэтафара нацыянальнага). За часы «перестройки» нацыянальная актыўнасьць беларусаў-каталікоў і іх фармальныя здабыткі на горкі яблык пабіваюць тое, што зьмянілася ў беларусаў-праваслаўных. Там зноў тытанічныя высілкі нацыяналізму йдуць у пясок, тут — гэты нацыяналізм яшчэ не прачнуўся. Цьвёрда трымаецца свайго застою яшчэ брэжнеўскі Філарэт — і яшчэ тысячы маленькіх філарэтаў па гарадох і вёсках Беларусі, над якою шэрае неба тужыць па сваім Богу, па сваім пазытыве.

РПЦ усё больш становіцца сапраўдным ідэалягічным бастыёнам «западно-руссизма», які трымае ў сваім магнітным полі гэты народ. Пасьля распаду камуністычнае ідэалёгіі «сьвятое месца» аказалася пустым, вакуум адчуваецца усё больш, і РПЦ — ці ня першы «пры дзяржаве» прэтэндэнт на гэтае месца, якое мусіла б заняць беларуская царква й беларуская старажытная традыцыя, якая пакуль «працуе» толькі як дэкаратыўныя цацкі чарговага нацыянальнага адраджэньня. Між тым РПЦ ужо сёньня выконвае функцыі ідэалягічнага аддзелу ЦК КПСС, які «пресекает» усялякае «сэпаратысцкае» памкненьне.

Гэта дзякуючы польскаму тактычнаму ўзору беларускі нацыяналізм так гідзіцца праваслаўя (што характэрна й для сёньняшніх нэафітаў Адраджэньня), а самое праваслаўе, «пакінутае ў спакоі», на водкуп «москвичей» і «западно-руссов» — выглядае зусім вартым гэтае гідлівасьці праз сваю чужую, нетутэйшую азіятчыну й «царкоўнаславянскую тарабаршчыну» (В.Ластоўскі).

Беларусь-праваслаўная, якая ў сярэднявечча спаборнічала з Расеяй за ролю сусьветнага цэнтру гэтае канфэсіі (чаго ня скажаш пра каталіцтва), была калісь зусім тутэйшаю й эўрапейскаю, і менавіта ў гэтым рэчышчы стварыла сваю тысячагадовую традыцыю, — гэта тая Беларусь, якая рэальна можа разглядаць сябе як незалежная й духова роўная Расеі — роўная не перад далёкім рымскім ерархам, а перад Богам. У часы, калі наш нацыяналізм фатальна не выходзіць з вузкага кола аматараў, гэтая прастора зьвяртае на сябе ўвагу сваёй некранутасьцю. Каб уявіць сабе памеры гэтае прасторы, трэба ахапіць поглядам тыя сфэры, дзе беларусізацыя амаль не адбываецца. Гэта ўся ўласнасьць і яе прадстаўнікі (усе гэтыя навукова-прамысловыя й аграрныя асацыяцыі), гэта войска (у якім нацыяналы — зноў апазыцыя), у меншай ступені — зробленая за савецкі час прыдаткам дзяржавы школа і, нарэшце, сама царква. Гэта асноўныя сфэры, дзе выціснутая ў XIX ст. ідэалёгіяй «западно-руссизма» беларушчына яшчэ не зрабіла сёньня ніводнага рашучага, сутнаснага кроку.

Такім чынам, паводле матэматыкі Цьвікевіча, мы маем дзьве тактыкі вылучэньня беларушчыны, адна зь якіх працуе бясплённа, а другая не працуе, хоць і магла б даць плён. Сутнасьць жа ў тым, што абедзьве тактыкі мысьляць сябе стратэгіямі й варожа настроеныя паміж сабой. Хоць на самсправе яны толькі тактыкі й функцыянальна (вось што самае істотнае) ў беларушчыне не ўзаемавыключныя, а проста розныя. Іх канфрантацыя ўзьнікае толькі за межамі беларушчыны, калі над апошняй бяруць верх інтарэсы «православия» і «Отечества» альбо каталіцтва й пальшчызны. Калі ж дамінуе беларушчына, тады магчымы плённы дыялёг — такі, які адбываўся калісь паміж Кіркорам і Каяловічам, якіх аб'ядноўвала агульная любоў да Беларусі. Сёньняшняе адраджэньне, устаючы на кіркораўскую нагу — на каяловіцкую моцна кульгае.

Ідэалёгія «западно-руссизма» павінна высьпець да ідэі беларускае незалежнасьці. Магчыма, тады для масы народу гэтая незалежнасьць і беларуская мова стануць СВАІМІ, крэўнымі. Сёньня, інтуітыўна адчуваючы за імі «польскі ўзор», народ ня можа прыняць іх як свае ды прасякнуцца імі.



ісламскага Ўсходу, пасьля захопу Казані... Мабыць, невыпадкова кніга швэда Ёгана Ботвіда, выдадзеная ў 1620 г. і прысьвечаная пытаньням веры ў Расеі называлася «Ці хрысьціяне маскавіты?» Масква стварала свой замкнёны варыянт рэлігійнай культуры, прынцыпова апазыцыйны эўрапейскаму.

Апынуўшыся ў ізаляцыі, беларускі візантызм няўхільна дрэйфаваў на Захад. Царкоўная унія 1596 г. была толькі фармальным з пункту гледжаньня гісторыі культуры пацьверджаньнем таго, што ўжо рэальна адбывалася ў мастацтве. Апроч кансэрвацыі праваслаўных традыцыяў як уласных, найперш у іконапісе і аздобе царкоўнага рыштунку, уніяцкае мастацтва жвава пачало сынтэзаваць візантыйскія й эўрапейскія формы. Зьявіліся скульптура й ляпніна ў інтэр'ерах цэркваў (дарэчы, менавіта на Беларусі яшчэ ў XIV ст. быў створаны вобраз Міколы Мажайскага — адзіная тады скульптурная выява сьвятога ў праваслаўным мастацтве). У архітэктуры цэркваў таксама шукаўся трэці, свой варыянт. Прыклад — царква Сьв. Духа ў базылянскім манастыры ў Менску: маньерыстычная бажніца з расьпісаным у выглядзе грэцкага іканастасу галоўным фасадам.

За паўстагодзьдзя ўніяцтва ахапіла ўсю праваслаўную Беларусь. Пазасталае артадаксальнае праваслаўе, нягледзячы на стаіцызм братчыкаў, таксама не пазьбегла запазычаньняў з Эўропы. Царква Пятра й Паўла ў Менску — адзіная на той час праваслаўная бажніца ў горадзе — бясконца далёкая ад сваіх малаазійскіх першаўзораў, таксама як і цэлая магілёўская школа праваслаўнай архітэктуры, якая вынайшла тып барочнай царквы, непамысны тады ў астатнім праваслаўным сьвеце. Але ў 1686 г. Кіеўская мітраполія, ад якой так і ня здолелі атрымаць самастойнасьці беларускія праваслаўныя біскупствы, пайшла па шляху Хмяльніцкага, падпала пад юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату, што прывяло да поўнае лякалізацыі праваслаўя на Беларусі пад канец XVIII ст. Адзіным носьбітам жывой традыцыі візантызму застаўся грэка-каталіцызм, які стаў у апазыцыю да польскіх рыма-каталікоў. «Яны хацелі б у сваёй невытлумачальнай нянавісьці каб Русі чым хутчэй не было. А з-за таго, што гэта ня можа стацца інакш, як пасьля зьнішчэньня абраду, дык перасьледуюць абрад грэцкі на кожным кроку», — пісаў Пятроні Камінскі, аўдытар Грэка-Каталіцкай мітраполіі.

Зварот праваслаўя на Беларусь стаў ідэалягічным лёзунгам расейскае акупацыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Так была адноўленая закінутая ўжо менская царква Пятра й Паўла. Кацярына II ахвяравала ёй частку свайго гардэробу, і царква стала называцца Кацярынінскай... Пасьля скасаваньня уніі ў 1839 г. па ініцыятыве біскупа Я.Сямашкі ў вагонь паляцелі тысячы абразоў, кніг, скульптураў. Гэтак зьнішчалася ўсё тое, што ацалела, што не адпавядала «канону». Да непазнавальнасьці перабудоўваліся бажніцы, мянялася ўбраньне інтэр'ераў. «Больш рускімі» зрабіліся праваслаўныя Спаская царква ў Полацку, Дабравешчанская ў Віцебску ды інш. Расейскае праваслаўе ўсталёўвалася на Беларусі праз зьнішчэньне уніяцтва, а па сутнасьці — той, старой беларускай праваслаўнай спэцыфікі.

Пасьля 1864 г. «манумэнтальная прапаганда» акупантаў набыла асаблівы размах ва ўсіх галінах царкоўнага жыцьця — ад культу расейскіх сьвятых, напрыклад, Аляксандра Неўскага, і расейскіх абразоў Данской, Казанскай, Цьвярской ды інш. Божых Маці да бажніцаў у «русско-византийском» стылі, што паводле тыпавых праектаў раўнамерна ставіліся па ўсім краі. Стыль крытыкавалі нават у самой Расеі — за казённасьць. Гэта тып бажніцы, распрацаваны на падставе расейскіх цэркваў-"караблёў", якія ня мелі ніякай традыцыі на Беларусі, зь неадменным наборам дэкаратыўных элемэнтаў расейскае спадчыны XVI—XVII стст. (какошнікі, цыбуліны, закамары ды інш.). «Другі хрост» XIX ст. накідаў Беларусі новы, нязнаны, чужы ўзор культуры, зьнішчыўшы пад сабою папярэдні, свой, уласна беларускі.

Да нашага часу ў гэтай сфэры жыцьця не зьмянілася нічога. У межах РПЦ на Беларусі не нарадзілася ніякая іншая беларуская спэцыфіка праваслаўя. Наадварот. Падпарадкаваная Маскоўскаму патрыярхату, РПЦ на Беларусі ёсьць носьбітам псэўдарасейскае эрзацкультуры. Па-ранейшаму гвалтуючы беларускую рэлігійную традыцыю, яна займае кальвінскія (Заслаўе), каталіцкія (менская Катэдра) ды мноства ўніяцкіх бажніцаў, вынішчаючы іх інтэр'еры, перарабляючы звонку. Рэлігійная прапаганда цалкам ажыцьцяўляецца праз экспарт паліграфічнае прадукцыі й прадметаў культу з Масквы. Духоўны й мастацкі досьвед старога беларускага праваслаўя цалкам ігнаруецца. Невялікая колькасьць сьвятых беларускай зямлі ня йдзе ў параўнаньне з той масай сьвятых расейскіх, якім прысьвечаная большасьць праваслаўных сьвятаў і абразоў на Беларусі сёньня. Што ўжо казаць пра мову!..

Шукаючы сёньня беларускіх каранёў ва ўсходнім хрысьціянстве (тутэйшыя сьвятыні, мову, дойлідзтва, мастацтва), непазьбежна мусіш зьвярнуцца да уніяцтва, якое ўвабрала мясцовыя традыцыі візантызму XI—XVIII стст., максымальна наблізіла ўсходні абрад да Беларусі.

# «БАЛЦКАЯ ТЭМА»

Сяргей Санька

**Першая спроба легалізаваць гэтую праблематыку роўна дваццаць гадоў таму (у 1973 г.) скончылася забаронай канфэрэнцыі «Этнагенэз беларусаў». Пасьля, нягледзячы на тое, што нашыя «навуковыя тузы» ніколі не заахвочвалі беларускія балтыстычныя штудыі, быў напрацаваны багаты матэрыял, а ў навуку прыйшлі дасьледнікі, не скаваныя старымі ідэалягічнымі забабонамі. Гэты матэрыял літаральна патрабаваў неадкладнага ўвядзеньня ў навуковы ўжытак, тым болей — цяпер, калі закладаюцца падваліны канцэпцыяў гістарычнае адукацыі й самое сьвядомасьці багата каго зь беларусаў.**

**Шматгадовае табу было зьнятае сёлета напрыканцы траўня ў Менску на канфэрэнцыі «Балты й этнагенэз беларусаў». Прадстаўнічая грамада экспэртаў зь Беларусі, Летувы, Латвіі, Украіны, Расеі блізка аднадушна выказалася на карысьць удзелу старажытных балтаў у фармаваньні беларускага этнасу. Стала зразумела, што дыскусіі тут могуць весьціся толькі пра ступень гэтага ўдзелу й канкрэтныя мэханізмы, якія маглі дзейнічаць у розныя часы, сплаўляючы ў адзіны — ужо беларускі — этнас розныя групоўкі мясцовых балтаў па меры славянізацыі апошніх...**



Паходжаньне беларусаў і этнічная гісторыя Беларусі належаць да ліку выключна заблытаных праблем. Сярод відочных і ня надта відочных прычынаў гэтага: 1) яўная недастатковасьць факталягічнае глебы, на якой засноўваліся першыя канцэпцыі этнагенэзу, блізка фатальная залежнасьць наступных тэорыяў ад гэтых першых этнагенэтычных досьведаў і, як вынік, нарошчваньне камяка «нерэфлектаваных прыпушчэньняў»; 2) часьцяком вельмі некрытычнае прыцягненьне зьвестак пісьмовых крыніцаў; 3) мэтадалягічна неправамернае зьмешваньне этна-, культурна- ды глётагенэтычных праблематык і адпаведных ім працэсаў; 4) высокая ідэалягічная нагружанасьць этнагенэтычных канцэпцыяў; 5) своеасаблівая «рэпрэсыўнасьць» інтэрпрэтатыўнай рэтраспэкцыі, што адштурхоўваецца ад «наяўнага» (у нашым выпадку — усходнеславянскага) стану; і шэраг іншых. Менавіта гэткіх «падводных камянёў» пакуль ня здолелі пазьбегнуць усе тэорыі паходжаньня беларусаў.

Наагул беларусам пашчасьціла захаваць у сваёй традыцыі свой этнагенэтычны міт. Менш-больш поўны варыянт яго апублікаваны (гл. «Легенды і паданьні», Мн., 1983, с. 78) і тут ёсьць сэнс падаць адно кароткі яго пераказ. Як і належыць ядзернаму міту традыцыі, ён адсылае да «першых часоў», калі ня толькі ўсё ў сьвеце, але й самы гэты сьвет адно заньіналіся. Напачатку апавядаецца, як з пачатковых водаў з дапамогай Перуна ўтвараецца ўсё існае, у тым ліку расьліны, зьвяры й сам чалавек. Першым насельнікам нашай зямлі быў Бай (князь Бой, паводле іншай вэрсіі міту), які меў трох сыноў і двох любімых сабакаў — Стаўры й Гаўры. Па сьмерці бацькі два сыны спадкавалі ўсю бацькаву маёмасьць, а малодшаму — Белаполю, які ў гэты час аказаўся на паляваньні з бацькавымі сабакамі — засталіся сабакі й бацькаў наказ: пусьціць Стаўры й Гаўры па волі, і колькі яны зямлі аббягуць за дзень, гэтулькі яму й дастанецца на спадчыну. Белаполь, злавіўшы дзьвюх птушак, пусьціў адну на поўдзень, а другую на захад, а сьледам за імі сваіх сабакаў. Куды пабеглі сабакі, пацяклі буйнейшыя нашыя рэкі: Дзьвіна — на захад, Дняпро — на поўдзень. Паміж гэтых рэк і пасяліўся Белаполь, ад якога й пайшлі ўсе плямёны беларусаў.

Відавочна, што міт гэты сьцьвярджае нешта проста супрацьлеглае таму, пра што мы даведваліся зь пісьмовых крыніцаў пра расьсяленьне на нашым абшары славянскіх плямёнаў. Аднак ёсьць усе падставы палічыць гэтае сьведчаньне самой традыцыі за больш грунтоўнае, падстаўовае і аўтарытэтнае пры абмеркаваньні праблемаў паходжаньня беларусаў. У сваім часе два вядомыя дасьледнікі (А.Трубачоў, Ул.Абаеў) высунулі тэзыс пра прыярытэтнасьць унутраных сьведчаньняў пэўнае традыцыі менавіта ў пытаньнях этнагенэзу. Адсутнасьць у народнай памяці паданьняў пра маштабнае перасяленьне аднекуль з зусім іншых мясьцінаў яны схільныя былі лічыць за галоўны паказьнік аўтахтоннасьці гэтага народу, яго спрадвечнага разьвіцьця на сваёй зямлі. Наш выпадак — гэта чыстая сытуацыя рэлевантнасьці пададзенага тэарэтычнага тэзысу. Але зь яго вынікаюць зусім не бестурботныя нават для «тутэйшых» дасьледнікаў наступствы. І найпершае зь іх — сьцьверджаньне тэзысу пра аўтахтоннасьць беларусаў. Апроч іншага гэта азначае, што ніякія міграцыі не маглі ў гістарычна аглядныя часы хоць-колечы паважна паўплываць на станаўленьне беларускага этнасу.

Пацьверджаньне гэтаму найперш дастаўляе антрапалёгія. У асадах апошняй было зроблена адкрыцьцё, якое ня можа быць пераацэнена. Гэта выснова пра старажытнасьць і адмысловую кансэрватыўнасьць антрапалягічнага тыпу, прынамсі, вясковага насельніцтва Беларусі. Аналіз розных сэрыяў паказьнікаў дазволіў адмыслоўцам зрабіць выснову, што антрапалягічны тып сучаснага насельніцтва Беларусі практычна бязь зьменаў спадкуе тып яшчэ мэзалітычнага насельніцтва нашай тэрыторыі. А лябараторныя дасьледаваньні дазваляюць ацаніць «біялягічны век» генафонду сучасных беларусаў прыкладна ў 9 тысяч гадоў. Вынікі фантастычныя. Але на канфэрэнцыі яны яшчэ раз былі пацьверджаныя, у прыватнасьці, у выступе А.Мікуліча.

Як жа быць з «магутнай славянскай міграцыяй» раньняга сярэднявечча? А ніяк. Бо міграцыі не было.

Не фіксуецца гэтая міграцыя й археалягічна, хаця, здавалася б, менавіта археалёгія найперш дастаўляла доказы на карысьць стандартнай міграцыйнай мадэлі. Ніхто з археолягаў пакуль ня змог прадэманстраваць *адкуль і як* маглі прыйсьці славянскія плямёны на будучую Беларусь. Дарэчы, акурат гэтая акалічнасьць прымушае некаторых дасьледнікаў сьцьвярджаць аўтахтоннасьць славянскага насельніцтва на Беларусі сама мала пачынаючы з жалезнага веку (Л.Побаль, В.Булкін ды інш.). Але давесьці гэты варыянт аўтахтоннай мадэлі паходжаньня беларусаў не лягчэй за папярэдні яму міграцыйны. Бо ён адразу ўваходзіць у супярэчнасьць з цэлай гаймай фактаў, якія інакш як у тэрмінах балцкай прысутнасьці на Беларусі з самых раньніх, падатных аналізу, часоў вытлумачыць нельга. Славянская ж аўтахтонная мадэль грунтуецца блізка выключна на адным «неаспрэчным» факце — на відавочным славянскім характары гаворак Беларусі і беларускай літаратурнай мовы, прынамсі, у апошнія некалькі стагодзьдзяў. (Гэты довад, у прыватнасьці, быў пакладзены ў падмурак новай «этна-лягічнай» канцэпцыі П.Церашковіча, тэзысы якое на канфэрэнцыі не знайшлі падтрымкі.) Але гэта й ёсьць прыклад тае самае «рэпрэсыўнасьці» інтэрпрэтатыўнай рэтраспэкцыі, якая гатова безаглядна перавытлумачваць мінулае зыходзячы з наяўнага сёньняшняга стану, а не наадварот — вытлумачаць сёньняшні стан, зыходзячы з адпаведна зразуметай мінуўшчыны.

Паспрабуйма зусім канспэктыўна прасачыць, якія магчымасьці дае этнагенэтычнаму дыскурсу так зразуметы тэзыс пра аўтахтоннасьць беларускага этнасу.

Ужо з канца 3-га — пачатку 2-га тыс. да н.э. прасочваецца этна-культурная еднасьць будучай Беларусі як вынік распаўсюджаньня тут культуры «баявых сякераў» або «шнуравой керамікі», якая, як, відаць, слушна заўважае Э.М.Загарульскі, была ня гэтулькі этнічнай адзнакай, колькі азнакай новае эпохі. Сапраўды, гэтым часам звычайна датуецца пачатак беларускага бронзавага веку.

На пачатку бронзавага веку бальшыня будучай этнічнай тэрыторыі беларусаў характарызуецца досыць аднароднымі старажытнасьцямі сярэднедняпроўскае культуры (3 — пач. 2-га тыс. да н.э.), якая, верагодна, дала асноўныя імпульсы да ўтварэньня на пачатку 2-га тыс. да н.э. шэрагу амаль тоесных і, безумоўна, генэтычна родных культураў (лубанскай у Паўднёва-Усходняй Латвіі, паўночнабеларускай у Беларускім Паазер'і і частцы Смаленскай ды Пскоўскай абласьцей, мар'янаўскай у Палесьсі й парэччы Дзясны, Сажа й Сейму, сосьніцкай у Верхнім і часткова Сярэднім Падняпроўі), якім, на думку багата якіх дасьледнікаў, ужо маглі адпавядаць племянныя групоўкі ўсходніх дняпроўскіх балтаў (В.В.Сядоў, І.І.Арцёменка, Э.М.Зайкоўскі, І.Лозэ ды інш.).

Блізка тысячу гадоў доўжылася амаль бесьперапыннае разьвіцьцё гэтых культураў, аж пакуль у пачатку — першай палове 1-га тыс. да н.э. на іх грунце не паўсталі культуры жалезнага веку Беларусі — днепра-дзьвінская, што ахапіла смаленскае Падняпроўе, полацка-віцебскую частку Падзьвіньня ды паўднёвую частку Пскоўшчыны, юхноўская ў басэйнах Дзясны й Сейма, верхнявокская ў вярхоўях Акі, мілаградзкая ў басэйнах Прыпяці й Дняпра й штрыхаванай керамікі ў цэнтральнай Беларусі й паўднёва-ўсходніх раёнах Літвы й Латвіі. Ня гледзячы на пэўныя адрозьненьні першых трох культураў ад дзьвёх апошніх, ёсьць падставы лічыць, што ўтвораныя яны былі блізкароднаснымі групоўкамі плямёнаў, што размаўлялі на блізкіх мовах (адрозьненьні — на ўзроўні дыялектных). Бальшыня дасьледнікаў не сумняваецца, што носьбітамі гэтых культураў былі плямёны ўсходніх, пераважна дняпроўскіх балтаў.

Сярэдзіна 1-га тыс. н.э. сталася пераломнай у этнічнай гісторыі нашых абшараў. Прыкладна ў гэтым часе адбываецца выключная ўніфікацыя культур блізка ўсяго разгляданага арэалу. Ёсьць падставы зьвязваць гэтую зьяву з далейшым расьсяленьнем плямёнаў дняпроўскіх балтаў у паўночназаходнім і паўднёвым кірунках. У выніку гэтага пачынае складвацца культура, якая па найбольш тыповых яе помніках атрымала назву банцараўска-тушамлінска-калочынскай. Сярод найбольш выразных «культуралягічных» адметнасьцяў гэтае культуры кідаюцца ў вочы яе адмысловыя арэальныя характарыстыкі. Гэта бадай адзіная з раньніх археалягічных культур, межы максымальнага распаўсюджаньня якое блізка дакладна адпавядаюць пазьнейшым межам расьсяленьня беларускага этнасу (лінгвістычным, этнаграфічным, фальклёрным ды інш.). Не выклікае сумніваў дасьледнікаў (за рэдкім выняткам) балцкая моўная прыналежнасьць носьбітаў гэтае культуры. Відавочна, што культуру тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі-Калочына можна з поўным правам лічыць уласна «протабеларускай». Нездарма багата хто з выступачоў на канфэрэнцыі зьвярталіся менавіта да гэтай адмысловай культуры з мэтай прасачыць найранейшыя азнакі будучага беларускага этнасу (Ф.Клімчук, М.Чарняўскі ды інш.).

Пазьней, у канцы 1-га тыс. н.э., лякальныя варыянты культуры тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі-Калочына сталіся тым грунтам, на якім паўсталі й разьвіліся культуры летапісных крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў.

Прыкладна на мяжы 1-га й 2-га тыс. н.э. завяршаецца пераважна «балцкі» этап беларускага этнагенэзу. Адна з галоўных прычынаў гэтага — карэнная зьмена ў эканамічным, палітычным жыцьці й ідэалёгіі бальшыні тагачасных грамадзтваў Усходняе Эўропы. У гэтым часе адбываецца пераход да новых кшталтаў грамадзкіх аб'яднаньняў (на зьмену былым аб'яднаньням радавых і племянных груповак паўстаюць першыя дзяржаўныя ўтварэньні) і да новых кшталтаў грамадзкіх адносінаў — фэадальных. Протагарадзкія паселішчы ператвараюцца ў гарады — адміністратыўныя, культурныя, рамесьніцкія й гандлёвыя цэнтры. Гарады становяцца пунктамі прыцягненьня для «шукальнікаў лепшага жыцьця» з усіх куткоў тагачаснае ойкумэны.

Шчыльныя гандлёвыя сувязі гарадоў Усходняй Эўропы запачаткоўваюць тэндэнцыі да сьціраньня рэгіянальных культурных асаблівасьцяў і фармаваньня адносна аднароднай гарадзкой культуры, што ў літаратуры атрымала назву «старажытнарускай». Апошняя была відавочным мэтаэтнічным утварэньнем, яна ж патрабавала й пэўнае мэтаэтнічнае лінгвістычнае непарыўнасьці ды аднароднасьці. Ролю своеасаблівага моўнага інтэгратара дзеля розных гістарычных прычынаў пачалі выконваць розныя варыянты славянскіх гаворак. Іхнай меншай ці большай уніфікацыі паспрыяла распаўсюджаньне хрысьціянства блізка выключна ў асяродзьдзі гарадзкога насельніцтва. Славянская мова на вялікім усходнеэўрапейскім абшары стала функцыянаваць як свайго роду lingua franca, якая гарантавала ўзаемаразуменьне ня толькі славянам, але й балтам, германцам, фіна-уграм і прадстаўнікам іншых этнасаў. Гэтая зьява мела эпахальны характар і была шчыльна зьвязаная з адпаведнымі працэсамі ў астатняй Эўропе (прыгадайма адно ролю сярэднявечнае лаціны як культурнага інтэгратара ў Заходняй Эўропе).

Але аднача́сна гарады становяцца галоўнымі асяродкамі моўнай і культурнай асыміляцыі абарыгеннага насельніцтва, на Беларусі — балцкага. Посьпеху асыміляцыі спрыялі дзьве акалічнасьці: 1) генэтычная роднасьць і выключная структурная блізкасьць балцкіх і славянскіх моваў; з прычыны большай эвалюцыйнай прасунутасьці славянскіх моваў асыміляцыйныя працэсы маглі перакрыжоўвацца з эвалюцыйнымі, прычым эвалюцыя тут была магчымай адно ў кірунку «балцкія мовы — славянскія мовы» і ніколі наадварот; 2) перасяленьне на тэрыторыю Беларусі адносна нешматлікіх груповак іншаэтнічнага славянамоўнага насельніцтва.

Асыміляцыйны працэс доўжыўся некалькі стагодзьдзяў і, верагодна, свайго крытычнага пункту дасягнуў у XIII—XIV стст., пасьля чаго працэс славізацыі мясцовых балтаў стаў незваротным. У выніку на вялікім абшары, яшчэ нядаўна занятым носьбітамі балцкае «банцараўскае» культуры, запанаваў пэўны кшталт славянскае гаворкі, якая з адпаведнымі агаворкамі можа быць названая «старабеларускай». Але балцкі лінгвістычны субстрат беларускай мовы яшчэ й сёньня выразна праяўляе сябе ў гайме лексычных балтызмаў, што захоўваюць і актыўна выкарыстоўваюць беларускія гаворкі й літаратурная мова, у фанэтычным, марфалягічным ды сынтаксычным ладзе беларускае мовы, у беларускай гідра-, топа- і антрапаніміі. Як было неаднаразова заўважана на канфэрэнцыі, агульная колькасьць беларускіх лексычных балтызмаў значна перавышае тыя некалькі соцень прыкладаў, якія звычайна фігуравалі ў лінгвістычнай літаратуры (В.Мартынаў, І.Лучыц-Федарэц, С.Прохарава, С.Санька). Ужо апублікаваныя матар'ялы «Этымалягічнага слоўніка беларускай мовы» павялічваюць вядомыя сьпісы ці не ўдвая (В.Мартынаў). Надзвычай пэрспэктыўнае ў гэтым сэнсе вывучэньне сынтаксычных балтызмаў, наогул вывучаных надзвычай яшчэ слаба (гэты прабел запоўнены быў працамі С.Прохаравай). Адзначаныя акалічнасьці даюць падставы гаварыць ня проста пра балцкі субстрат беларускай мовы, але й пра балцкі інгрэдыент у ёй. Аднак гэты «пакрыёмы» плян беларускай мовы патрабуе мэтадычнай экспплікацыі.

Канчаткова ўласна беларускі этнас складваецца ў сваіх яшчэ дагістарычных культурных межах (арэал банцараўскае культуры) за часы Вялікага Княства Літоўскага — супольнае дзяржавы продкаў сучасных беларусаў і літоўцаў, а часткова — расейцаў і ўкраінцаў. У гэтых межах і застаюць беларускі этнас пазьнейшыя этнографы й дыялектолягі.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што ў аснове беларускага этнагенэзу былі, безумоўна, мясцовыя балтамоўныя этнічныя групоўкі, што сапраўднай праблемай зьяўляецца ня столькі высьвятленьне ролі балтаў у беларускім этнагенэзе (яна відавочная), колькі роля славянаў, а таксама таго, як, пры якіх умовах, калі адбывалася моўная асыміляцыя (славізацыя) гэтага мясцовага насельніцтва, якая роля належала ў гэтым працэсе тым нешматлікім, калі даваць веры археалягічным крыніцам, славянскім перасяленцам пераважна ў заходніх раёнах Беларусі. Калі ж выразіць формулу беларускага этнагенэзу каротка, то можна сказаць, што беларусы — гэта славянамоўныя балты. Якія гэта можа мець культуралягічныя наступствы, пакажа будучыня. Але слова сказана.

# Мой сябра Вова Цымэрман

Уладзімер Арлоў



Блаславёны, хто мае на сьвеце дом, у якім прамовіў першае слова, навучыўся хадзіць пад стол, а потым датупаў да ганку, бразнуўся зь яго і, румзаючы ад страху ды болю, папоўз на зьбітых каленках да весьніцаў.

Тое месца, дзе стаяў некалі наш скарбовы драўляны полацкі дом, ужо даўно занятыя прысадзістым бэтонавым кубікам палацу культуры завода шкловалакна. Часам я заходжу ў ненавісную мне спаруду, блукаю па яе пустых калідорах і спрабую ўявіць, дзе што месьцілася ў тыя гады, калі паляцеў у космас Юры Гагарын і нашую вуліцу назвалі ягоным імем. Сам дом быў, здаецца, там, дзе сёньня шатня, «шпакоўня» — акурат на месцы цяперашняй прыбіральні, а пад падлогаю глядзельнае залі, магчыма, ацалела жменька попелу з таго раскладзенага пад маёй улюбёнай папяроўкаю вогнішча, дзе мы некалі спалілі, папярэдне выкалаўшы яму вочы, партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Тады мне было дзевяць гадоў, а Вову Цымэрману, што разам з намі браў удзел у карнай акцыі, — на паўтара меней, але гэты рослы мурлаты хлопчык з падобнымі да двух мячыкаў ружовымі шчокамі мог лёгка адужаць любога з нас.

Статыстыка сьведчыць, што ў 1885 годзе з кожнае сотні палачанаў жыдамі было шэсьцьдзесят шэсьць, а на пачатку XX стагодзьдзя — роўна палова. У гады майго дзяцінства агульныя лічбы, відавочна, зьмяніліся, але нашага раёну гэта ніяк не датычыла. Вакол нас жылі Шэфы й Гофэншэфэры, Ліўшыцы й Эпштэйны, Рафайловічы, Сраліовічы й Гэрцыковічы, трохі далей — Бэрманты, Бэрнштэйны, Кацы, Кацманы й Кацнэльсоны. Дзякуючы сваім пазьнейшым гістарычным росшукам я заўважыў, што некаторыя прадстаўнікі гэтых слаўных фамілій упарта захоўвалі вернасьць прафэсіям продкаў. Абодва дарослыя Сраліовічы, напрыклад, працавалі ў друкарні — праўда, не гаспадарамі, як іхні дзед, а ўсяго толькі мэтранпажамі зь вечна чорнымі ад сьвінцу й фарбы пальцамі. Бэрмант і Бэрнштэйн, гэтаксама як іхнія сваякі перад «вялікім кастрычнікам», жывіліся з фатаграфіі.

Чым займаліся сто гадоў таму Герцыковічы, я не даведаўся, аднак сын старога Залмана Абрам, што працаваў дырэктарам нашае школы, меў бясспрэчныя заслугі ў змаганьні з шыкоўнай фрызурай будучага беларускага літаратара Вінцэся Мудрова, а пляменьнік Абрама Залманавіча Аркаша Кацман кіраваў пазьней папулярнай сэкцыяй аэробікі. Пасьля агульных заняткаў ён звычайна пакідаў у зацішнай спартовай залі адну са сваіх выхаванак, каб яшчэ з паўгадзіны пазаймацца індывідуальна, а потым прыходзіў я, мы рэзаліся ў пінг-понг, і я прапаноўваў Аркашу трохі адрэдагаваць назву сэкцыі, дадаўшы пасьля «о» літару «ё». Гуляючы са мной разьвітальную партыю напярэдадні ад'езду ў Лёс-Анджэлес, Аркаша Кацман прамовіў сакрамэнтальную фразу: «Не пойму я, Володя, почему ты вырос среди евреев, а никак приличную квартиру не получишь».

Але гэта прычынілася праз шмат гадоў пасьля дзяцінства, а ў той малечы час, жывучы сярод суседзяў, якіх спрэс звалі Хаімамі, Абрамамі, Ізраілямі ды Мойшамі, я да душы зьдзіўляўся, што ў майго таты такое нетутэйшае імя — Аляксей.

Дом маіх бацькоў на вуліцы імя першага касманаўта атачалі будынкі розных установаў, дзе пасьля шасьці заставаліся толькі вартаўнікі й вахцёры, а таму ўвечары ў нас было пустэльна й ціха. Затое за нашым гародам пачыналіся ажно тры густа населеныя вуліцы з парадкавымі нумарамі пад агульнаю назваю Рабочая. Каб там жылі калі-небудзь нейкія рабочыя, я ня памятаю. Там жылі жыды, і гэтыя вуліцы, прынамсі, старэйшая частка іхняга жыхарства, гаварылі на ідыш.

У цёплыя летнія адвячоркі гаспадары выходзілі з драўляных дамовак, уладкоўваліся на лавачках каля гародчыкаў, у якіх расьлі бэз, «разьбітае сэрца» й жоўтыя вяргіні, і паважна гаманілі на незразумелай мне мове. На ўтравелых вуліцах, дзе машыны зьяўляліся толькі калі хтосьці паміраў, хадзілі козы й куры, бегалі непародзістыя каты й сабакі рознае масьці, і мы з жыдоўскімі дзецьмі гулялі ў «пікара» й «калім-бам-ба».

Тоўстая, як капешка, цётка Роза Саламонаўна любіла пачаставаць нас агрэстам або малінамі. На сьвята зь яе пульхных пальцаў можна было атрымаць кавалак жыдоўскага мядовага перніка пад экзатычнаю назваю «тэйгэлах». Цётка Роза працавала касіркаю на атракцыёнах у парку каля Дзьвіны і сваім людзям адказвала па-жыдоўску: «Драйсік копсік білет». Зь мяне грошай яна ніколі ня брала. Па часе я зразумеў, здаецца, прычыну такое дабрачыннасьці: мой тата быў пракурорам, а яе сын Фіма цягнуў тэрмін за тое, што зарэзаў жонку. Гэтае злачынства ўяўлялася мне бясконца загадкавым і неверагодным, бо якраз будучы забойца даў мне пачытаць «Маленькага прынца» й яшчэ багата цікавых кніжак.

Тэрмін Фіма атрымаў невялікі, бо ўчыніў сьмертазабойства, як казалі дарослыя, «на почве ревности». Мая дзіцячая спроба дазнацца, што гэта за «почва» скончылася нічым. Ну й што з таго, што засьнеў жонку зь іншым? — разважаў я над пачутым тлумачэньнем, інтуітыўна падазраючы, што з гэтае прычыны можна пераразаць занадта шмат жонак. І потым было зусім незразумела, навошта — калі засьпеў яе зь іншым — рэзаць менавіта жонку, а не таго, іншага.

Ведама ж, нашыя суседзі-жыды ня толькі прадавалі квіткі ў парку культуры й адпачынку ды рэзалі жонак. Царскі генэрал-маёр Міхал Без-Карніловіч, што выдаў у 1855 годзе кніжку «Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии», пісаў аб полацкіх і наогул прыдзьвінскіх жыдах наступнае: «Предприимчивы, любопытны, проницательны. С первого взгляда, с первых слов поймут, с кем имеют дело. Заранее рассчитают барыши, какие может доставить предпринимаемая операция; исчислят расходы, и тогда только возьмутся за дело. Избегают утомительных работ: между ними найдете много портных, сапожников, шапошников, стекольщиков, лудильщиков, жестянщиков, разносчиков, резчиков печатей, золотых и серебряных дел мастеров; редко встретите кузнеца, плотника, пильщика. В вере тверды, единодушны, любят помогать своим, в особенности, когда пострадают от пожара».

Усё праўда.

Муж цёткі Розы Ізраіль Маісеевіч таксама пазьбягаў пыльных ды «утомительных» работ і зарабляў на хлеб начным вартаваньнем паркавых атракцыёнаў. Хоць імя гэтага мужнага чалавека ў памяці палачанаў ужо сьцёрлася, ягоны подзьвіг назаўсёды ўвайшоў у гарадзкія аналы. Калі ў парку паставілі атракцыён «Пятля Несьцерава», двое міліцыянтаў зь дзяжурнага патруля раскатурхалі Ізраіля ў ягонай вартоўні й загадалі пракаціць. Муж цёткі Розы паслухмяна націснуў кнопку й пайшоў дасыпаць. Міліцыянты «пятлялі» ў скляпаным з бляхі самалёце давідна. Зьнялі іх непрытомных і ледзь жывых. На шчасьце, адзін зь «лётчыкаў» перад тым, як зьнепрытомнець, здолеў выцягнуць пісталет і разрадзіць абойму ў бок вартоўні, чым і парушыў бясклапотны сон пільнага Ізраіля Маісеевіча. (Перад ад'ездам у Ізраіль муж Розы Саламонаўны, праўда, прызнаваўся, што не заснуў у тую ноч ні на волас.)

І наконт пажару праўда. Калі ў старых Герцыковічаў згарэла палова дому з майном, ім папрыносілі з усіх Рабочых вуліцаў столькі ўсялякіх рэчаў, што стары Залман быў проста шчасьлівы й хваліўся, бышцам у адбудаванай дамоўцы можа абымацца са сваёй Сімай не на двух, як да пажару, а ажно на чатырох ложках.

Яшчэ адна Сіма — Сімачка Музыкант, дачка інспэктара гарана, жыла побач з намі ў завулку з глыбокай лужынай, у якую глядзеліся цераз плот падвязаныя сінімі стужкамі мальвы. Смуглявая, з глыбокім малінавым румянкам і зялёнымі міндалевымі вачыма, Сіма надоўга заняла месца ў маіх хлапчукоўскіх эратычных фантазіях і самотных забавах. І дагэтуль, перачытваючы «Найвышэйшую песьню Саламона» або купрынскую «Суламіф», я бачу кранутыя лёгкім загарам Сіміны ногі — палевыя з блакітнымі жылкамі.

Так, варта было выйсьці з дому, прабегчы сотню крокаў, і ты як быццам трапляў у іншую краіну — зь яе моваю, зь яе аблічамі й імёнамі, нязвыклымі звычаямі й стравамі.

Неадменнаю часткаю гэтай краіны, над якой дзьмулі далёкія гарачыя вятры, быў дзядзька Грыша Цымэрман, што сядзеў на лавачцы каля дагледжанага пафарбаванага ў тэракотавы колер дамка й задуменна глядзеў выцьвілымі лавандавымі вачыма на стогадовую таполю.

Удзень бацька Вовы Цымэрмана працаваў шаўцом у будцы каля першай у Полацку крамы самаабслугоўваньня. Увечары, перш чым выйсьці са свайго прапахлага скураю й клеем закутка, каб паглядзець на таполю, ён таксама працаваў шаўцом. Асабліва захапляла мяне тое, як па-цыркавому спрытна дзядзька Грыша выплёўваў з роту маленькія цьвічкі й адным снайпэрскім ударам заганяў іх у належнае месца. На вайне ён служыў у артылерыі, атрымаў кантузію, і кожны год, на схіле лета, яго апаноўвала замарачэньне. Ён рабіўся гаваркі, апавядаў, як выпіваў з маршалам Жукавым і бачыўся на перадавой з самім Сталіным, а разышоўшыся, пачынаў выгукваць артылерыйскія каманды. Тады дзядзьку Грышу забіралі на месяц за Дзьвіну, дзе ў колішніх мурох братоў-бэрнардынаў месьцілася вар'ятня. Хворых лекавалі там ня толькі мэдыкамэнтамі, але й рознай псыхатэрапіяй. Напрыклад, калі мэлыкам спатрэбілася цэгла, бабінец бэрнардынскага сабору разабралі, а косткі з пахаваньняў пад ім раскідалі па двары проста пад нагамі ў пацыентаў.

Пасьля лекаў дзядзька Грыша да наступнага жніўня губляў усю ваяўнічасьць, рабіўся ціхманы й лагодны й штовечар займаў звычную пазыцыю насупраць таполі. Ягоныя адносіны з гэтым дрэвам прыводзяць мне на памяць пачуцьці, што зьвязвалі палкоўніка Аўрэліяна Буэндыя з каштанам, уткнуўшыся ў які лобам герой Маркеса назаўсёды разьвітаўся з нашым сьветам.

Калі ў гады «разьвітога сацыялізму» дамы, лавачкі й гародчыкі на Рабочых вуліцах пазносілі, а таполю спляжылі і, прычапіўшы тросам да бульдозэра, кудысьці алвалаклі, Цымэрманы атрымалі кватэру ў дзевяціпавярховіку, побач зь іхнім былым падворкам. Дзядзька Грыша штовечар уладкоўваўся каля вакна на пятым паверсе й да цёмнага глядзеў у той бок, дзе некалі шамацела лістотаю ягоная таполя. Я думаю, у тыя хвіліны ён па-ранейшаму сядзеў на высьлізганай азадкамі лавачцы пры цёплай тэракотавай сьцяне. У новай кватэры ніхто ўжо не пачуў ад яго ні ўспамінаў пра маршала Жукава, ні артылерыйскіх камандаў. Не дачакаўшыся канца жніўня, дзядзька Грыша адночы адчыніў вакно.

Але я забягаю наперад. Да вакна, праз якое бацька Вовы Цымэрмана задуменна ступіў у любы яму зруйнаваны сьвет, яшчэ заставалася палова дзяцінства.

Мы пераходзілі з клясы ў клясу, пачыналі чытаць братоў Стругацкіх і Брэдбэры, пісаць любоўныя цыдулкі й цiскаць іхніх адрасатак у школьным гардэробе. Мне палабалася аднаклясьніца, пампушка Поля Кругляк. У шостай клясе я колькі разоў падводзіў яе дахаты, браў за руку й прапаноўваў «дружыць». Поля чырванела, апускала вочы і, картавячы «р», ціха казала, што яна згодная толькі на вельмі сур'ёзныя адносіны. Я ня ведаў, што такое сур'ёзныя адносіны й маркотна пазіраў усьлед поўным Поліным нагам, падобным да літровых малочных бутэлек.

Да Сімачкі Музыкант Полі было, безумоўна, далёка, аднак Сіма з бацькамі ўжо зьехала ў Ізраіль. Выправілася на гістарычную радзіму й шмат іншых суседзяў. Зьехалі Шэфы з сынам Ільлюшам, маім аднагодкам, што меў ня надта, відаць, зручную для ізраільскага грамадзяніна мянушку зь нейкім арабскім прысмакам — Мустафа Ягло-Ягло. Зьехалі Кацнэльсоны са сваім Мішам, мянушка ў якога (прышчэпленая, дарэчы Фімам-забойцам) была шматкроць даўжэйшая, велягурысьцейшая й дзіўнейшая — Мабута Чомба Лэя Пінзя Скавародкін.

«Жиды редеют, а ряды жидеют», — са злосьцю зацятага антысэміта казаў школьны ваенрук Іван Кірылавіч, што на занятках па грамадзянскай абароне вучыў нас з малалецтва карыстацца супрацьгазам, які аднойчы назваў таямнічым словам «гандон». Я не разумеў ягонае злосьці. Мне было шкада аднаклясьнікаў, што назаўсёды зьніклі з майго жыцьця разам зь мянушкамі, бацькамі, братамі й сястрычкамі. У шостай клясе афіцыйных жыдоў у нас засталося ўсяго трое — Поля Кругляк, Марк Альтбрэгін, якому я пякуча зайздросьціў, бо ў яго дома было ажно два тэлефоны й два тэлевізары, і Бора Гасіль.

Бору я не зайздросьціў. Выконваючы піянэрскае даручэньне, я падцягваў яго па матэматыцы.

Падцягваньне Боры адбывалася даволі цікава. Мы займаліся на кухні, дзе плаваў настоены пах смажанай цыбулі, за сталом, засланым белаю цыратай у блакітныя краткі. Трэба сказаць, што з маіх тлумачэньняў Бора ніколі нічога не разумеў дый не імкнуўся зразумець, а ўвесь час прапаноўваў згуляць у настольны футбол. Ён працягваў вучыцца па матэматыцы на стабільны дваяк, і моцна цягнуў наш атрад юных ленінцаў назад, але я ўпарта прыходзіў да Боры зноў і зноў. Апрача масьляных плямаў на сшытках для практыкаваньняў, я



заўсёды нёс у кішэні жменю дарагіх цукерак кшталту «Мишка на севере», атрыманых ад Боравай маці ў якасьці незаслужанага ганарару. Плюс гульня ў настольны футбол. Плюс кучаравая Борава сястра Фірка, якая хвалявала маё сэрца ня меней за Полю Кругляк.

Падчас нашых заняткаў Фіра заззычай уладкоўвалася побач на зэдліку й ела мяне пукатымі авечымі вачыма, пакуль я не зьбіваўся й не заблытваўся ў лічбах. Заўважыўшы гэта, яна дарыла мне задаволеную ўсьмешку і, трасянуўшы кудзеркамі, выплывала з кухні, падкрэсьлена круцячы клубамі й пакідаючы ва ўсёй маёй істоце саладкавую гарачую млявасьць. У тыя хвілі ўвачу неадчэпна стаяў малюнак зь нядаўняе мінуласьці, калі я вучыўся ў чацьвертай клясе, а Фіра — у трэцяй. Пакінуты на другі год пяціклясьнік Вася Шуйскі прапанаваў Фірцы за марозіва схадзіць зь ім у зарасьнікі лопуху за канавай і паказаць, што ў яе пад трусікамі. Калі Фіра вярнулася, тое самае, але ўжо за пяцьдзесят капеек прапанаваў ёй Васькаў прыяцель Валерка Акаркаў, і яна зноў згадзілася. Кажуць, што потым, на зямлі продкаў, Фіра пачала з масажнага кабінэту, вельмі хутка пайшла ўгору і цяпер кіруе велізарнаю сеткаю гэткіх кабінэтаў па ўсёй краіне, у што я, успамінаючы тую дзіцячую кухонную млявасьць, ахвотна веру.

З кніжкі Пікуля пра Грышку Распуціна я ўведаў, што сакратаром у яго служыў мазырскі жыд Сімановіч. Аднойчы геніяльны прыдворны чмут вырашыў падараваць вернаму паплечніку залаты спод з надпісам. Надпіс склаў і ўласнаручна накрэмзаў гравёру на шматку паперы сам Распуцін — «Лутшиму ис ивреив».

Каб у дзяцінстве мне прапанавалі падараваць спод з гэткім надпісам камусьці з маіх знаёмых жыдоў, я без ваганьняў выбраў бы Вову Цымэрмана.

У школьныя гады мы хадзілі як злучаныя. Разам гадавалі прывезенага мноою з бабулінай вёскі маладога зайца Колю і разам, пусьціўшы сьлязіну, хавалі ягоныя костачкі ў скрыньцы з-пад абутку, калі гаротніка-Колю разарваў суседзкі сабака Дунай. Разам латашылі чужыя сады, а ў сваіх садах, якія латашылі суседзкія хлапчукі, пяклі ў прыску бульбу. Разам палохалі дзяўчынак акулярыстымі вужакамі, якіх лавілі ў траўні на прыгарадных азёрах і прыносілі ў школу за пазухай паміж саколкай і кашуляй.

Мая маці карміла нас дранікамі, клёцкамі з душамі і старадаўняй полацкай стравай — халоднай варанай бульбай з брусьніцавым сочывам. Маці Вовы Цымэрмана, настаўніца малодшых клясаў Марыя Абрамаўна, частавала нас рыбай-фіш, фаршмакам і цымусам. Адзінае, што зь яе жыдоўскага кухарства мне не падабалася — відаць, па генах — гэта маца.

Разам з Вовам мы першы раз пераплылі туды й назад Дзьвіну і, узрушаныя зьдзейсьненым, прысягнулі адзін аднаму вусьцішнай сяброўскаю прысягай, якую напісалі ў двух асобніках на аркушах з вучнёўскага сшытку. Прысяга была па-мужчынску лапідарная — «Дружба до гроба», подпісы пад ёю мы паставілі крывёю, раскалупаўшы паказальныя пальцы шпількаю, што замяняла мне гузік на рукаве зялёнай — запомнілася ад урачыстасьці моманту — кашулі.

Ды ці мала чаго яшчэ перажылі мы разам з Вовам.

Нас ня здолела разьвесьці нават ізраільска-эгіпецкая вайна 1967 году, пасьля якой багата полацкіх жыдоў узяліся хуценька мяняць імёны ды прозьвішчы, ператвараючыся зь Ізраіля ў Ільлю, з Абрама ў Аляксандра, а з Макса Моўшавіча ў Марка Міхайлавіча. Вову Цымэрмана зусім ня крыўдзілі мае показкі накшталт той, чый герой усё слухае па дарозе дахаты па радыё, як жыды набліжаюцца да Каіру, а потым адчыняе дзьверы, а яны ўжо там.

Нас — банальная гісторыя! — разьвяла ў розныя бакі беларуская дзяўчынка Наталя Усвайская з маёй былой дзясятае клясы. Пад канец школы яна зь непрыкметнага заморка з цыпкастымі нагамі-трысьцінкамі, што вучылася на чацьверкі й пяцёркі, неўпрыцям вырасла ў прыгажуню-троечніцу, вакол якое круціліся нават лётчыкі з задзьвінскага ляснога аэрадрому. Я прыглядаўся да Наталі здалёк і, даючы ўначы волю лятункам, удзень рыхтаваўся да іспытаў у БДУ і марыў пра час, калі сустрэну Усвайскую, вярнуўшыся дахаты студэнтам.

Першы, каго я спаткаў, прыехаўшы зь Менску, быў Вова Цымэрман з Наталяю. На маё ганарлівае паведамленьне, што я ўжо студэнт, Вова паклаў даме майго сэрца руку на талію (а праўдзівей, крыху ніжэй) і, тэатральна закаціўшы вочы, прадэклямаваў найагіднейшыя з усіх вядомым мне дагэтуль паэтычных радкоў:

> Натали моя, Натали,
> Утоли мою плоть, утоли...

Перад Наталяй стаяў студэнт унівэрсытэту, а яна ўхвальна падхіхіквала нейкаму паршываму дзесяціклясьніку. Пад іхнімі неўразуменнымі позіркамі я моўчкі паварнуўся і зь нечалавечай самотаю ў душы пайшоў прэч, выкіроўваючыся на дарогу ведаў і зрабіў на сьцежцы да яе кароткі прывал у бары «Пралеска», дзе ўпершыню ў жыцьці выпіў алькагольны кактэйль «Луна».

Каханка маіх сноў наталяла Вову Цымэрмана нядоўга. На зімовых вакацыях я са змрочным помсьлівым задавальненьнем даведаўся, што мой былы сябар ня вытрымаў канкурэнцыі зь якімсьці задзьвінскім лётчыкам, які неўзабаве зрабіў Наталі дзіця і ўвішна перабазаваўся на іншы лясны аэрадром неабсяжнае краіны.

У душы зноў заварушыліся ачахлыя сяброўскія пачуцьці, аднак жыцьцё ўжо разьнесла нас з Вовам па розных арбітах, і цяпер я сачыў за ім адно здаля.

Зьвесткі, што дасягалі мяне, толькі пацьвярджалі маю выснову: сябар дзяцінства быў яўна нетыповым носьбітам нацыянальнага характару свайго народу.

Гэта выяўлялася, скажам, у тым, што Вова Цымэрман займаўся ў старэйшых клясах ня шахматамі, як большасьць ягоных схільных да спорту адзінакроўцаў, а вольнай барацьбой і меў па ёй разрад.

Пасьля школы ён не палез у інстытут, а пайшоў у тэхнікум цераз дарогу ад дому і потым працаваў на аўтарамонтным заводзе з розным жалезьзем. Вова мог няквола выпіць, у тым ліку й за свой кошт.

У адрозьненьне ад шмат каго з супляменьнікаў, Вова пайшоў служыць у савецкую армію. Праўда, там ён ня скокаў з парашутам і не будаваў дарогі, а граў у аркестры на ўдарных, але дружная армейская сям'я ўсё адно хутка падрыхтавала Цымэрману нялёгкае выпрабаваньне. Двое дзембялёў паклікалі Вову з рэпэтыцыі на паважную размову за казарму. Паводле ягоных аповедаў, размова адбывалася так. «Слушай, жидяра пархатый, — сказаў, паказаўшы на боты, першы дзембель, родам аднекуль з-пад Растова, — будешь по утряне вылизывать нам до блеска говнодавы». Другі, больш вытанчаны й адукаваны, бо гадаваўся ў «колыбели революции», інтэлігентна дадаў: «В противном случае, сударь, сыграем на ваших гениталиях шестую симфонию Шостаковича». Пасьля гэтага Вова паказаў сваім суразмоўцам пару барцоўскіх штукаў і да самага разьвітаньня з роднай часьцю тыя дзембелі нібыта публічна зьвярталіся да яго выключна так, як і было загадана, — «Господин Циммерман».

Яшчэ, па чутках, Вова быў буйны спэцыяліст па жанчынах. Да чутак дадалося й адно маё ўласнае назіраньне. Працуючы пасьля ўнівэрсытэту ў гарадзкой газэце, я атрымаў заданьне напісаць рэпартаж, як гараджане дапамагаюць вёсцы. Дабраўшыся з фотакарам пад вечар у калгас, мы засьпелі ўсіх памагатых на кінасэансе ў клюбе. Паказвалі фільм «Их знали только в лицо». Пасьля кожнае часткі кіншчык пакутліва доўга мяняў бабіну, і ў залі запальвалі сьвятло. У адным з гэтых перапынкаў я ўгледзеў наперадзе буйную стрыжаную галаву й крутыя плечы Вовы Цымэрмана, які абдымаў нейкую маладзіцу. Празь некалькі хвілінаў пракураная й запляваная семкамі заля пачула сьцішаны, але выразны Цымэрманаў басок: «Слушай, Зинка, надоело. Пойдем лучше пое...ся». «Ціха ты!» — цыкнула Зінка, і зьвье постаці рушылі да дзьвярэй.

З сумам мушу зазначыць, што тады я бачыў Вову астатні раз. Неўзабаве ён паспрабаваў уладкавацца на наваполацкае прадпрыемства пад кодаваю назваю «Измеритель», аднак гэтак званы першы аддзел завярнуў ягоныя дакумэнты. «Не прошел по шнобелю», — вясёла тлумачыў Вова знаёмым. Але ў душы пакрыўдзіўся і зазьбіраўся ў Ізраіль...

Паміж днём, калі я ўзяўся пісаць гэтыя прыгады, і днём, калі я іх скончыў, была ноч, у якую мне сасьніўся Полацак часоў дзяцінства. Чамусьці ён дужа выдаваў на Нью-Ёрк зь вядомага фільму «Аднойчы ў Амэрыцы», а мы зь сябрамі — на кіношных падлеткаў, што зрабіліся гангстэрамі. Ноч навылёт мы гойсалі па вуліцах, кагосьці мачылі, рабавалі й гвалцілі, да апошняга патрону адстрэльваючыся ад міліцыі.

Ад гэтае страляніны я й прачнуўся.

Ляжаў і ўсьцешана думаў, што, дзякуй Богу, нікога мы з Вовам Цымэрманам насамрэч не згвалтавалі, не абрабавалі й не зарэзалі. А таму засталіся ў нас на дваіх успаміны цнатлівыя ды сэнтымэнтальныя, якімі няшкода й падзяліцца.



*Здымак Алены Адамчык*

# МАТРЫМАНІЯЛЬНАЯ ПОЗА

*Артыкул з польскага часопіса «Dziś», 3/1993*

Міхал Коцур

Ёсьць такая навэлька ў Януша Макарчыка, ня памятаю яе назвы. Падзеі адбываюцца на выспах Палінэзіі. У хаце тубыльцаў кватаруюць праз сьцяну пратэстанцкі місіянэр з жонкай (вялікія пурытане) і вясёлы валацуга, уважаны тамтэйшымі жыхарамі за д'ябла, які штоночы шумна й са смакам бавіцца зь мясцовымі паненкамі. Неяк уначы распусьнік чуе з-за сьцяны: «Элеанора, зрабі ласку, прымі матрыманіяльную позу!» Небарака д'ябал ледзь не сканаў ад сьмеху.

Гэтая гісторыя стрэліла мне ў галаву, калі я слухаў чарговыя парляманцкія дэбаты, дзе густа сыпаліся словы: сямейная любоў, абарона сьвятасьці сям'і, годнасьць жанчыны, цноты й што там яшчэ.

Але хапіла выступу дэпутата Багдана Лазукі, каб вярнуць рэчам уласьцівыя ім прапорцыі. «Усе гэтыя абаронцы спэрматазоідаў і годнасьці, — сказаў ён, — ня толькі ня маюць уяўленьня пра кіраваньне, гаспадараньне й незалежнасьць, але да ўсяго таго надта несымпатычна трактуюць вельмі далікатную й мілую частку жаночага цела». Дык вось! Спадарства парлямэнтарысты й хрысьціянскія гінэколягі, менавіта праз такое стаўленьне да самай датклівай і далікатнай часткі цела сапраўды зьневажаецца годнасьць жанчыны. І вы яшчэ насьмельваецеся выстаўляцца са словам «любоў».

Сьвяты Павал у Гімне пра Каханьне гаварыў: «Любоў цярплівая, міласэрная, любоў не зайздросьціць, любоў не ўзьвялічвае сябе, не ганарыцца, не бушуе, не шукае свайго, не раздражняецца, не намышляе ліха, ня радуецца зь няпраўды, а разам радуецца ісьціне; усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць. Любоў ніколі не мінаецца, хоць і прароцтвы спыняцца, і мовы змоўкнуць, і веды зьвядуцца» *(1 Кар. 13, 4-8)*.

Але не такую любоў маюць на ўвазе нашы нацыянал-хрысьціянскія маралізатары, калі гугняць пра хрысьціянскія цноты й зачацьце. У іх акт каханьня паміж жанчынай і мужчынам каштоўны й вартасны толькі як частка працэсу вырабу новых пакаленьняў нацыянальных хрысьціян.



*Здымак Алены Адамчык.*

Вытворчасьць чаго-небудзь у прамысловым маштабе мае сваю спэцыфіку, сваю мову, таму пра каханьне часьцей гаворыцца ў нас як аб прадукцыі машын. Канчатковым вырабам павінна стацца дзіця. А пачынае ўвесь працэс прадукцыйны спэрматазоід, запушчаны ў адпаведны канал, астатняе адбываецца ўжо ў бабскім жываце, пад наглядам спэцыялістаў, паводле тэхналёгіі, распрацаванай Панам Богам, патэнт на якую мае выключна Ватыкан. Любое пабочнае ўмяшаньне ў гэты працэс уважаецца за сабатаж і падлягае карным санкцыям. А што здараюцца пераборы — што ж, ніякая масавая прадукцыя ад гэтага не застрахаваная.

Слова «пракрэацыя» (працяг роду) нават гучыць як прадукцыя, і ўсе размовы пра каханьне, пачуцьці, далікатнасьць тут недарэчы, як недарэчы яны былі ў сацрэалістычным фабрычным рамане, у якім таксама часам ішла гаворка аб пракрэацыі. Тут найбольш трапная вытворча-паліцэйска-юрыдычная тэрміналёгія. А тое, што пачынаць нараджальны працэс бязь нейкай там кроплі пачуцьця праблематычна — дробязь. Паляк, асабліва на добрым падпітку, заўсёды дасьць рады. Гэта толькі дэгенэрат-інтэлігент патрабуе чулых слоўцаў, прагулак пад дажджом ды ўсялякай іншай трасцы. А тут на шалях нацыянальныя інтарэсы, інтарэсы дзяржавы. Ёсьць здаровая баба, ёсьць мужык, дык і дзеці павінны сыпацца ў згодзе з воляй Божай.

Калі артадаксальны юдаізм не прызнае прэзэрватываў за сродак контрацэпцыі й тлумачыць гэта тым, што жанчына й мужчына ў момант «найбольшага задавальненьня» павінны быць у поўнай блізкасьці, мне гэта падабаецца, хоць увогуле я за контрацэпцыю. Але калі каталіцкі сьвятар заяўляе, што жанчына, якая падчас полавага акту, накіраванага на зачацьце, не адчуўшы задавальненьня, мае права бяз грэху адшкадавацца потым пальцам, дык тут ужо хоць ты ў шворку лезь. Няхай дзяўчына рукаблудзіць, колькі ўлезе, але ня сьлед нейкаму пану пад страхам грэху ўказваць, калі ёй можна, а калі не. Хай рэглямэнтуе свае аргазмы!



Дзетаробства сталася цяпер стрыжнем касьцельнай дактрыны. І ў той самы час зроблена ці ня ўсё, каб згідзіць людзей «вырабам патомства», каб з цуду лучнасьці ў каханьні мужчыны й жанчыны выпарыць усю паэзію, стыхійнасьць, радасьць жыцьця ўрэшце. Акурат, як пісаў Бой*:

*Хоць крычы, хоць енкам енчы,*
*А праблемаў больш чым годзе:*
*Як напстрыкаць больш малечы*
*Пры мізэрнай асалодзе.*

Нават агульна ўяўляючы сабе, якія парады даюцца маладым на дашлюбных парафіяльных курсах, прыходзіш да высновы, што Касьцёл хацеў бы запраграмаваць інтымныя адносіны аж да рэглямэнтацыі доўжаньня аргазму.

І наўрад ці што зьменіцца, пакуль пра фізычную блізкасьць разважаць будуць тыя, хто, тэарэтычна, ведаць пра яе павінен толькі з кніжак і спавядальні.

Да лібэралізму й капіталізму Польшча, бадай што, яшчэ не дасьпела. Але пара ўжо, каб выкуклііўся масавы рух антыкасьцельнай рэфармацыі згодна з даўнімі выпрабаванымі заходнеэўрапейскімі ўзорамі. Павінен жа нехта, нарэшце, як Лютэр, папрыбіваць на дзьвярах польскіх касьцёлаў тыя некалькі дзясяткаў тэз-пратэстаў супраць нашых ксяндзоў, якім невядомыя любоў да блізкага й павага да пазнаньня. Падзеньне аўтарытэту каталіцкага Касьцёлу пацьвярджаюць усе дасьледаваньні грамадзкае думкі. Цікава, што ўсё часьцей, асабліва сярод моладзі, узьнікае тэндэнцыя да зьмены рэлігіі, пераходу ў пратэстантызм, альбо ўвогуле нехрысьціянства. І ў той самы час ці погляды, напрыклад, спадарыні Маргрэтэ Аўкэн, дацкага пастыра, гутарку зь якой апублікаваў тыднёвік «NIE», не бліжэйшыя духу Эвангельля за дэклярацыі нашых кардыналаў і нацыянал-хрысьціянскіх дзеячоў?

Спадарыня Аўкэн гаворыць проста: «Грэхам ёсьць абраза іншых людзей». Няўжо разам з эвангельскім запаветам любові да Бога й блізкага камусьці (апроч людзей з рабскай душой) патрэбныя яшчэ павучаньні, якія контрацэпцыйныя сродкі, якія позы, якія кнігі, карціны, тэлевізійныя праграмы грэшныя, а якія дабрадайныя? Каталіцкі Касьцёл чамусьці ніяк ня можа адмовіцца ад пошукаў грэху амаль выключна ў сфэры сэксу. Гэтая сэксуальная манія часьцей спараджае нянавісьць, а не любоў. Звычайныя людзі ані часу, ані сродкаў на такія забавы ня маюць. Кахаюцца, як умеюць, каб мець у жыцьці хвілінаў колькі таго шчасьця, ці хоць бы прыемнасьці. А ўсе «маральныя настаўленьні» ў гэтай сфэры «шчыра шануюць», пакуль непаўналетняя дачка не зацяжарыць, альбо сын не падчэпіць AIDS. І так будзе заўсёды, незалежна ад высілкаў рэлігійных інстытуцыяў, апекаваных богабаязнай дзяржавай. Запавет любові людзі заўсёды будуць разумець і рэалізоўваць па-свойму, як на тое іх настаўляе натура.

Магчыма, дэпутат Несялоўскі выкажа сумненьне, што пачуцьцё, якое ўзьнікае паміж двума гомасэксуалістамі, альбо лесбіянкамі, ёсьць любоў. Але калі малады хлопец застаецца са сваім хворым на AIDS сябрам, каб уберагчы яго ад адзіноты, дык гэта ёсьць любоў, таксама як зь любові вырастаюць справы ксяндза Аркадыюша Новака ці Марка Катаньскага. Але калі каталіцкая жонка, саступіўшы п'яным дамаганьням мужа, аддаецца яму «па-боску» абы быў мір і спакой і ўжо каторы раз цяжарае, дык няма тут нізваньня любові, хай сабе хоць блізьняты народзяцца. Хацелася б растлумачыць гэта нашым каталіцкім маралістам, але лобам муру не праб'еш. Для іх любоў — гэта толькі належная сэксуальная поза.

У свой час я быў вельмі зьдзіўлены, што на блянках парафіяльнай картатэкі, якія пробашч запаўняў штогод пад каляды на кожнага парафіяніна (фармуляр гэтага дакумэнту апублікавала «Трыбуна» 14 студзеня 1993 г.), сярод безьлічы дэталёвых рубрык бракавала якраз той, якая дазволіла б дакладна ведаць, у якой позе кахаюцца муж і жонка. Вядома ж, з адпаведнай пазнакай — рэгулярна, раз на год, зусім не.

Пераклад з польскае А.С.



* Тадэвуш Бой Жэленьскі (1874–1941) — польскі літ. крытык, паэт, публіцыст. (Пераклад В.С.).

# ПАШТОЎКА З ЎІНЧЭСТЭРУ

Мэва Марон

У дзявятым стагодзьдзі, калі Англія была маленькай краінай (якраз такой, як трэба!) па дарозе ў Ірляндыю, «Ірляндыю сьвятых і мудрацоў», як часта кажуць, Ўінчэстэр быў сталіцаю тае Англіі. Каралём быў Альфрэд, вялікі перакладчык на тагачасную германа-ангельскую мову (Аўгустын і Боэцы), сьвятым заступнікам быў Суідэн, пазьней ведамы з сваіх здольнасьцяў у прадказаньні надвор'я. (Калі ў дзень Сьвятога Суідэна, 15 ліпеня, йдзе дождж, дык будзе дождж яшчэ сорак дзён. Ён пажадаў, каб яго пахавалі там, дзе б на яго мог капаць дождж, а не ў катэдры. У гэтым ягоная помста.)

Тысячу гадоў пазьней у Ўінчэстэры жыла Джэйн Остэн. Яшчэ й цяпер можна прайсьці міма яе дома побач з каледжам. Як, мабыць, праходзіў Кітс за часы сваёй оды «Да восені». Яна памерла за два гады перад тым: няма сэнсу пытацца, што б яны маглі рабіць адно з адным. Яму падабаліся дзьвярныя малаткі, з ільвінымі й баранімі галовамі. Цяпер іх таксама можна пабачыць. А таксама паўтарыць ягоную праходку зь верасьня 1819 (першыя дзвацацаць хвілінаў): катэдра, каледж, сады з паплавамі, старцоўскі прытулак Сьв. Крыжа (вялікая пустая царква з кляштарам за горадам). Вуліцы ўсё тыя ж самыя, што і ў Кітсавым лісьце з 1819 году. Але цёплыя зжатыя палі засталіся толькі ў вершы.

Цягнікі зьявіліся пазьней. І ў гэтым жалезным веку я (ня хочучы параўноўваць сябе з гэтымі выдатнымі папярэднікамі) спусьцілася па вуліцы з «Разьвеяным попелам» Монікі Марон (выкінутым публічнай бібліятэкай) у маім пластыкавым пакеце з «Украінскае Кнігарні» (гэта не мая сваячка, а сама кніга мяне расчаравала — лепей ужо Крыста Вольф) і, будучы невылечным заўсёднікам букіністычных кнігарняў, зайшла да Гілбэрта (не Гілбэрта й Салівэна або Гілбэрта й Джорджа, а проста да Гілбэрта) праз пераход каля «крыжа» (больш падобнага на выштукаваную алтарную разьбу) ад Хай стрыт да Катэдры...

Я не зьбіральнік. Калі я купляю, дык часам болей каб падтрымаць кнігарскую справу, чымся шукаць пасьля ў сябе месца на паліцах для яшчэ адной кнігі: мне падабаецца адчуваць, што я толькі бяру тое, што не зацікавіць болей нікога іншага. Проста нейкім чынам наведваньне букіністычных кнігарняў дапамагае майму мэнтальнаму стрававваньню, штурхае мае думкі ў непрадбачаным накірунку, дапамагае парадкаваць рэчы...

У жніўні 1991 году было йначай. Я проста не пазнала гэтую мясьціну. Там, дзе я не спадзявалася пабачыць нічога асаблівага — паўтузіну французскіх кніжак, слоўнік суахілі (або малайскі, або маратхі...) — стаялі поўныя паліцы (і ладны кавалак падлогі) таго, што шыльдачка называла «расейскімі тэкстамі». Звычайнае: Паўстоўскі, Горкі? Так — і не! Фадзееў, Кочатаў, Пікуль... А тады я ледзь рот не разявіла: Дубоўка! Адна, дзьве, тры кнігі... З надпісамі... Я выйшла на вуліцу, каб крыху праясьнела ў галаве.

Было каля трыццацёх градусаў. Я вярнулася. Кітсава праходка была ўвечары: лепш пайсьці ягонымі сьлядамі пазьней. Так, выбраныя вершы 1959 году, два зборнікі *«Казак»*. Бықаў (на абедзьвюх мовах), тузін беларускіх кніжак... Кнігазбор д-ра Т.Руткоўскай. Я бяру пару Дубовак і рыхтуюся прамовіць павучаньне пра добрыя рэчы ў «расейскіх тэкстах», якія зусім не расейскія, пра дзяўчатак, якія прыйдуць купіць кнігу ў падарунак дзядзьку, які пачаў вучыць расейскую мову, і выберуць найпрыгажэйшую кнігу, пісаную кірыліцай...

Мне пашэнціла. Прапраўнук сп. Гілбэрта больш гаваркі (або менш заняты) за некаторых іншых гаспадароў букіністычных кнігарняў. Гэта былі мясцовыя дактары, кажа ён: расейцы, палякі... «Тут толькі тое, што мы дагэтуль пасьпелі ўратаваць». Я стараюся як мага быць ветліва-цікаўнай, але не занадта нецярплівай: «Можа, давайце я скажу Вам, якія кнігі тут беларускія, а якія расейскія?» Выяўляецца, што за касаю ёсьць люк і стромыя сходы ў сутарэньне: трэба толькі адсунуць пару кніжак...

Там халодна й вельмі, вельмі сыра. Вулічная сьпёка, здаецца, засталася недзе далёка. Даводзіцца пераадольваць глыбокае пачуцьцё гідкасьці — мокрыя кардонныя скрыні абціраюцца аб вопратку. Кнігі навалены абы-як: на паліцах, у стосах, кучамі ў скрынях. Усе яны вось-вось пакрыюцца плесьняю, але яшчэ зьбольшага не дайшлі да той стадыі, калі ўсе старонкі зьліпаюцца ў адно... Падумаць толькі: я магла хавацца ад сьпёкі ў катэдральнай бібліятэцы, сярэднявечныя навукова-фантастычныя ілюстрацыі да Езэкіэля пяра «Майстра Скачучых Постацяў» у Ўінчэстэрскай Біблії... Аднак я тут: я на кручку.

# Бруна ШУЛЬЦ

*Працяг са старонкі 13.*

ную актыўнасьць, паступова пераходзіў да жаноцкай падатнасьці. Ён ляжыць цяпер на адной з шматлікіх канапаў, парасстаўленых паміж кніжнымі паліцамі, у шаўковай піжаме з жаночым дэкальтэ. Паненкі дэманструюць, адна за адной, фігуры й позы з гравюраў на вокладках, іншыя ўжо засынаюць на часова зладжаных пасьцелях. Націск на кліента паслабляўся. Яго выпускалі з кола назольнае зацікаўленасьці, пакідалі сабе самому. Прыслужніцы, занятыя размовай, болей не зварачалі на яго ўвагі. Павярнуўшыся да яго бокам або задам, яны заміралі ў дзёрзкай контрапозе, пераступалі з нагі на нагу, граючы какетным абуткам, пускалі зьверху ўніз па зграбным целе юрлівую зьмяіную хвалю, нападаючы ёю з-пад сваёй нядбалай безадказнасьці на ўзбуджанага гледача, якога не заўважалі. Так яны адступалі, разважна адыходзілі ўглыб, пакідаючы вольную прастору для актыўнасьці госьця. Скарыстаем гэты момант няўвагі, каб пазьбегнуць непрадбачаных наступстваў гэтага нявіннага візыту й выбрацца на вуліцу.

Ніхто нас не затрымвае. Праз калідоры кніжак, уздоўж даўгіх паліцаў з часопісамі мы выбіраемся з крамы й апынаемся ў тым месцы Кракадзілавай вуліцы, дзе з узвышанага яе пункту відна амаль уся даўжыня гэтага шырокага гасьцінца, аж да далёкіх, недакончаных будынкаў чыгуначнага вакзалу. Стаіць шэры дзень, як і заўсёды ў гэтых ваколіцах, і ўся сцэна падаецца часам фатаграфіяй зь ілюстраванай газэты, такімі шэрымі й плоскімі выглядаюць тут дамы, людзі й машыны. Гэтая рэчаіснасьць тонкая, як папера, і ўсімі шчылінамі выдае сваю несапраўднасьць. Хвілінамі здаецца, што толькі на маленькім лапіку перад намі ўсё ўкладаецца прыкладна ў той падкрэсьлены вобраз вялікага гарадзкога бульвару, тым часам як ужо з бакоў гэты імправізаваны маскарад разьвязваецца, распускаецца і, няздольны ўтрымаць сваёй ролі, распадаецца за нашай сьпінаю ў гіпс і пакульле, у занядбаны звал рэквізыту нейкага вялізнага пустога тэатру. Напружаньне позы, штучная паважнасьць маскі, іранічны патас дрыжыць на гэтай тонкай плеўцы рэальнасьці. Але мы далёкія ад жаданьня здэмаскаваць відовішча. Насуперак лепшай ведзе, мы адчуваем сябе ўцягнутымі ў тандэтныя чары гэтых кварталаў. Зрэшты, у вобразе гораду не бракуе й пэўных рысаў аўтапародыі. Рады маленькіх аднапавярховых загарадных дамкоў чаргуюцца з шматпавярховымі камяніцамі, якія, збудаваныя нібы з кардону, уяўляюць сабою канглямэрат шыльдаў, сьляпых нежылых вокнаў, шкліста-шэрых вітрынаў, рэклямаў і нумароў. Пад дамамі цячэ людзкая рака. Вуліца шырокая, як вялікі гарадзкі бульвар, але праезная частка зробленая, як вясковы пляц, зь бітай гліны, поўная выбоінаў, лужынаў і травы. Вулічны рух складае прадмет асаблівае ўвагі ў гэтым горадзе, жыхары гавораць пра яго з гордасьцю й змоўніцкім бляскам у вачох. Гэты шэры безасабовы натоўп надзвычай пранятаы сваёй роляй і з гарачай



заўзятасьцю імітуе бачнасьць вялікага гораду. І аднак, нягледзячы на навакольную дзелавітасьць і хцівасьць, складаецца ўражаньне, што наша прагулка аблудная, манатонная й бязмэтная, падобная да соннага карагоду марыянэтак. Усю гэтую сцэну ахінае атмасфэра нейкай дзіўнай нікчэмнасьці. Натоўп плыве манатонна, і, што дзіўна, ён заўсёды выглядае неяк невыразна, постаці праплываюць у зблытанай лагоднай гамане, не дасягаючы поўнае выразнасьці. Толькі часам з гэтага шматгалоўнага тлуму можна вылавіць нейкі цёмны, жывы позірк, нейкі чорны, глыбока насунуты капялюш, нейкі разьдзерты ўсьмешкай кавалак твару з вуснамі, якія якраз нешта казалі, нейкую нагу, высунутую наперад для кроку й назаўсёды замерлую.

Асаблівасьць гэтых кварталаў — фурманкі бяз возьнікаў, якія бягуць самапасам па вуліцах. Не сказаць, каб тут не было фурманаў, але зьмяшаныя з натоўпам і занятыя тысячай справаў, яны ня дбаюць пра свае фурманкі. У гэтых кварталах прытворнасьці й пустых жэстаў не надаецца залішняй увагі дакладнай мэце паездкі, і пасажыры давяраюцца тым аблудным вазам зь легкадумнасьцю, уласьціваю тут усяму. Часам іх можна бачыць на небясьпечных паваротах, як яны, высунуўшыся далёка з паламанай буды, зь лейцамі ў далонях напружана праводзяць складаны манэўр разьезду.

Ёсьць у гэтых кварталах і трамваі. Амбіцыя гарадзкіх райцаў сьвяткуе тут свой найвышэйшы трыумф. Аднак годны жалю выгляд гэтых вазоў, зробленых з пап'е-машэ, зь сьценамі павыгінанымі й зьмятымі ад шматгадовага ўжытку. Часам у іх зусім няма пярэдняй сьцяны, так што можна бачыць у праезьдзе пасажыраў, што сядзяць нерухома й трымаюцца зь вялікаю годнасьцю. Трамваі гэтыя папіхаюць гарадзкія насільшчыкі. Аднак найдзіўнейшая рэч — чыгуначны транспарт на Кракадзілавай вуліцы.

Часам, у розныя поры дня, недзе пад канец тыдня, можна заўважыць натоўп людзей, што на павароце вуліцы чакаюць цягніка. Ніколі не вядома напэўна, ці ён прыедзе й дзе спыніцца, і часта здараецца, што людзі зьбіраюцца ў дзьвюх розных мясьцінах, ня здолеўшы пагадзіць свае погляды што да пункту прыпынку. Яны чакаюць доўга й стаяць чорным маўклівым натоўпам уздоўж ледзь пазначаных сьлядоў рэек, з тварамі, што выглядаюць у профіль як шэраг бледных папяровых масак, выразаных у фантастычную лінію глядзеньня. І нарэшце ён неспадзявана прыяжджае, ужо выехаў з завулку, адкуль яго не чакалі, нізкі, як вужака, мініятурны, з малым, сапучым, каржакаватым лякаматывам. Ён уяжджае ў чорны людзкі калідор, і вуліца робіцца цёмная ад гэтае чарады вагонаў, што сеюць вугальны пыл. Цёмнае сапеньне паравозу й павеў дзіўнай паважнасьці, поўнай смутку, стрыманая пасьпешлівасьць і знэрваванасьць на хвіліну ператвараюць

Я выходжу, міргаючы, адчайна марачы пра вану, трымаючы ў руках «Невадам з Нёмана», сем Дубовак зь ягонымі дэдыкацыямі, «Выбранае» Панчанкі з аўтографам, цудоўную маленькую Цётку з штампам *«В.Тиханович (Минск)»*, два зялёныя тамы Багдановіча, вокладка з нарысаў адвалілася, мюнхенскага Купалу 1955 году... Менш зачытаны (і больш глянцаваты) том «Казак» Дубоўкі (пасланы ў 1975) пакідаю на паліцы — паглядзець, што зь ім станецца.

Калі кнігі ўжо гатовыя да гартаньня, аджывае постаць доктара — праз крывыя падкрэсьленьні й нататкі на палёх. Геніюш. «Краіне»: *«Адказу няма»*. «Вячэрняя Містэрыя»: *«Няма каля м-ца зор апрача Вэнэры»*. «Братам палонным»: *«Які сэнс гэтага верша?»* У Дубоўку толькі падкрэсьленьні, прыкладам *«у балоце самым гразкім / не заграз»*, замест закладкі — паперка з рэклямай *«iopydol/iopydone aqueous suspension for bronchography»*; гэтая маленькая сіняя кніжка відавочна ўжывалася ў якасьці дзёньніка, на заднім форзацы адрасы, *«цягнікі на Лёндан»*, *«правы чалавека ў Віетнаме(?)»*... (быў 1970)

Доктар Руткоўская хутка стамілася рабіць нататкі алоўкам у Быкаве (як і ў артыкуле пра «Гнастычны раман Булгакава» у «Новом Журнале» за 1979 год). *«Паядуць гарачае бульбачкі, і ўся хвароба адстане»*, *«зачарпнуў жменяю снегу, пасмактаў, і кашаль сапраўды патроху суняўся»* на першых старонках «Сотнікава», *«болей прыгнятаў успамін пра тых, на балоце, што гібелі цяпер на сьцюжы і чакалі іх з якім-ніякім харчам»*. Але ў адным з ранейшых тамоў Быкава шмат пытальнікаў і знакаў абурэньня, бліжэй да канца адкрэсьлена *«шмат чаго не разумеючы»*, а ў самым канцы стаіць: *«Рододендроны не колючие»*.

Ніякіх камэнтароў у Купале, які выглядае зашмуленым з краёў, таму што ён гэтак пераплецены, але, відаць, яго наўрад ці калі гарталі; ніводнага запісу ў вершах Багдановіча: як быццам яна мела любімае выданьне, што рассыпалася на кавалкі, якое ня здолела перажыць сутарэньняў і было выкінутае як нетаварнае — другі том Багдановіча я атрымала амаль за нішто, бо яно было (на думку кнігара) у непрыстойна дрэнным стане.

Доктар Руткоўская пакінула свой сьлед. Пакінулі яго і аўтары. Кожны па свойму. Дубоўка выводзіць дрыготкай рукою, калі я слушна прачытала, на «Пялёстках»: *«зямлячцы... з навагоднім (1974 г.) павіншаваннем... снежань 73 г.»*, а Панчанка піша праз увесь тытульны аркуш: *«Слаўнай Тані ў дзень нараджэньня... люты, 76 г.»* (яна ставіць пытальнік каля слова *«латыш»* у «Ля кургана дружбы», падкрэсьлівае *«То кужалем белым, то сьпелай суніцай, То поясам слуцкім, то несьвіжскім замкам»* у «Думах салдата» і ўздыхае — *«ніколі не была»* — на «Нью-Йоркскіх малюнках»). Яе рука, калі яна ня піша на палёх, ідзе праз правы край старонкі й пакідае апошнія колькі літараў на ніжняй старонцы...

Вось і ўсё. Усяго некалькі сьлядоў нечага жыцьця. Дубоўкавы «Казкі» так дагэтуль там і стаяць, побач зь імі — баўгарская «Фитотерапия», «Пчёлы и медуница» — ой, не, не *pulmonaria*, а «медицина»! Аднак нехта купіў «Я з вогненнай вёскі» (можа дзеля здымкаў?) — а таксама найтаньнейшы тавар, кнігу В.Ціхановіча з малюнкамі пра рыбную лоўлю...

Гэтым разам я выходжу з кнігарні задаволеная (нічога ня трэба купляць!), утрымваюся ад спакусы купіць гэльска-ангельскі слоўнік XIX стагодзьдзя ў Хрысьціянскай кнігарні за рогам, іду на двор перад Катэдрай, дзе сёньня — вялікае эўрапейскае скрыжаваньне, на траве навалена заплечнікаў/насьпіньнікаў, і гэтым разам пачынаю маё паломнае падарожжа з Кітсам не перагружаная кнігамі: бяру адзін Гінэс каля коледжа, у карчме, дзе бэлькі абвешаныя піўнымі куфлямі, побач з крамкай, якая завецца «Валошка»; жоўтыя пліскі *(motacilla flava)* над ракою, гляджу гульню ў крыкет каля Сьв. Крыжа, — і, магчыма, нават бачу жабу (ратуйце пальцы на нагах, калі лебедзям не спадабаюцца вашыя крышкі!)

Або дзеля прыліку тру пару лісточкаў у зёлкавым садзе... І паўсюль — наперстаўкі, у садзе каля ракі, уздоўж чыгункі: *digitalis*, «для стымуляцыі сардэчнай дзейнасьці»...

Засталося толькі разгарнуць «Восень» Т.С. — пад куфаль, або калі ўпадзе брамка ў крыкеце...

P.S. Але я была занадта суровая з Горкім: калі ўжо яго чыталі й любілі Томас О Крохан і Падрыг О Конар (праўда, апошні пісаў больш як Стэфаньк, якога ён ня мог ведаць), дык хто такая я, каб сярдзіцца на яго адмову быць перакладзеным на ўкраінскую мову?



вуліцу ў залю чыгуначнага вакзалу ў раньнім зімовым сутоньні.

Пошасьць нашага гораду — ажыятаж вакол чыгуначных білетаў і спэкуляцыя імі.

У апошнюю хвіліну, калі цягнік ужо стаіць на станцыі, у нэрвовай пасьпешнасьці адбываюцца перагаворы з прадажнымі чыгуначнымі службоўцамі. Перш чым гэтыя пэртрактацыі скончацца, цягнік ад'яжджае, і яго праводзіць, павольна ідучы сьледам, расчараваны натоўп, праводзіць далёка, паступова разыходзячыся.

Вуліца, ператвораная на хвіліну ў тлумны імправізаваны вакзал, поўны сутоньня й паху далёкіх дарог — зноў прасьвятляецца, пашыраецца й прапускае сваім рэчышчам бесклапотны манатонны натоўп гулякаў, які вандруе пасярод гаманы размоваў уздоўж крамных вітрынаў, тых брудных, шэрых прастакутнікаў, поўных танных тавараў, вялікіх васковых манэкенаў і цырульнічых лялек.

Дражліва апранутыя, у даўгіх карункавых сукенках, праходзяць прастытуткі. Зрэшты, гэта могуць быць і жонкі цырульнікаў або рэстаранных музыкаў. Яны йдуць драпежным, мяккім крокам і маюць у нядобрых, сапсаваных тварах нязначную хібу, якая іх перакрэсьлівае: або чорны касавокі позірк, або разьдзертыя вусны, або адкусаны кончык носа.

Жыхары гораду ганарацца гэтым водарам сапсаванасьці, якім тхне ад вуліцы Кракадзілаў. Мы ня мусім ні ў чым сабе адмаўляць — з гонарам думаюць яны — мы здатныя й на сапраўдную распусту вялікага гораду. Яны цьвердзяць, што кожная жанчына ў гэтых кварталах — куртызанка. І сапраўды, варта толькі глянуць хоць на адну — і адразу сустрэнеш той настойлівы, ліпкі, казытлівы позірк, які замарожвае нас распусьлівай пэўнасьцю. Нават школьніцы тут нейк адмыслова носяць стужкі, асабліва ставяць зграбныя ножкі й маюць у позірку тую нячыстую хібу, у якой хаваецца сфармаваная загадзя будучая распуста.

І аднак — аднак, ці раскрыем мы апошнюю таямніцу тых кварталаў, старанна хаваны сакрэт вуліцы Кракадзілаў?

Ужо колькі разоў на працягу нашага паведамленьня мы ставілі папераджальныя знакі, далікатна выяўляючы нашыя засьцярогі. Для ўважлівага чытача ня будзе неспадзяваным канчатковы паварот справы. Мы гаварылі пра імітацыйны й ілюзорны характар тых кварталаў, але гэтыя словы маюць занадта завершаны й станоўчы сэнс, каб акрэсьліць палавінны й нерашучы характар іх рэчаіснасьці.

Мова наша ня мае азначэньняў, якія б вымяралі дозу, ступень рэальнасьці, вызначалі яе гушчыню. Скажам без намінкі: фатальнасьць гэтых кварталаў у тым, што нічога ў іх не даходзіць да свайго выніку, нічога не дасягае сваёй дэфінітыўнасьці, усе распачатыя рухі завісаюць у паветры, усе жэсты перадчасна вычэрпваюцца й ня могуць пераадолець нейкага мёртвага пункту. Мы маглі тут заўважыць вялікую буйлівасьць і марнатраўства — у інтэнцыях, праектах, прадчуваньнях, што характэрна для гэтых кварталаў. Усе яны — ня што іншае, як фэрмэнтацыя жаданьняў, разрослая перадчасна, а таму бясьсільная й пустая. У атмасфэры празьмернай лёгкасьці буяе тут любы найменшы капрыз, мімалётнае напружаньне распухае й вырастае ў пусты разьдзьмуты верад, вылазіць шэры й лёгкі парост пухнатага зельля, бясколерных калматых макаў, створаны зь бязважкай тканкі відмаў і гашышу. Над усёй ваколіцай лунае лянівы й распусны флюід грэху, і дамы, людзі, крамы часам здаюцца дрыготкаю на яе хворым целе, гусінай скурай на яе гарачкавых летуценьнях. Нідзе, як тут, мы не адчуваем пагрозьлівай небясьпекі магчымасьцяў, нідзе мы так ня ўражаныя блізкасьцю спаўненьня, бледныя й самлелыя ад распуснага страху ажыцьцярленьня. Але на гэтым усё й канчаецца.

Пераступіўшы пэўны пункт напружаньня, прыліў затрымваецца й адступае, атмасфэра гасьне й перацьвітае, магчымасьці вянуць і распадаюцца ў нішто, звар'яцелыя, шэрыя макі ўзбуджэньня рассыпаюцца ў попел.

Мы будзем вечна шкадаваць, што выйшлі тады на хвіліну з кравецкае крамы падазронага ладу. Мы ніколі ня трапім у яе зноў. Мы будзем блукаць ад шыльды да шыльды й памыляцца сотні разоў. Мы адведаем дзясяткі крамаў, трапім у зусім падобныя, будзем вандраваць праз калідоры кніжак, гартаць часопісы, весьці доўгія й блытаныя перамовы з паненкамі празьмернага пігмэнту й хібнай прыгажосьці, якія ня здолеюць зразумець нашых жаданьняў.

Мы будзем блытацца ў непаразуменьнях, пакуль уся нашая гарачка й запал не разыйдуцца ў непатрэбным намаганьні, у марнай пагоні.

Нашыя надзеі былі непаразуменьнем, двухсэнсоўны выгляд крамы й прыслугі — пустой бачнасьцю, крама была сапраўднай крамаю, а прыслужнік ня меў ніякіх схаваных інтэнцыяў. Жаночы сьвет Кракадзілавай вуліцы адзначаецца цалкам памяркоўнай сапсаванасьцю, заглушанай тоўстымі пластамі маральных і банальных забабонаў звычайнасьці. У гэтым горадзе таннага чалавечага матэрыялу не стае таксама буйлівага інстынкту, не стае нязвыклых і цёмных жарсьцяў.

Вуліца Кракадзілаў была саступкай нашага гораду на карысьць сучаснасьці й сталічнай распусты. Відавочна, мы не былі здольныя ні на што іншае, як на папяровую імітацыю, як на фотамантаж, складзены з выразак зьляжалых леташніх газэтаў.

Пераклаў з польскай Юз.

# Пра падарожжа ўСмаленск

Што пішуць?

*Аўген Касьцюшка з Гомля:*



Для беларусаў шмат значыць гэтае места. Тут жылі й дзеялі беларускія сьвятыя, навукоўцы, дзяржаўныя дзеячы. Побач з Турава-Пінскім і Полацкім княствамі Смаленскае таксама было старажытнабеларускай дзяржавай, аб чым ёсьць шмат гістарычных сьведчаньняў і навуковых доказаў. У часы Вялікага Княства Літоўскага, Рускага й Жамойцкага Смаленск быў цьвярдыняй, што бараніла наш край ад спусташальных набегаў усходняга суседа. Нарэшце, менавіта ў Смаленску была абвешчаная БССР...

Цёплым веснавым вечарам цікава было аглядаць смаленскую архітэктуру, сачыць зь цьвердынёвай сьцяны плынь Дняпра, мроячы аб чым-небудзь альбо проста бяздумна адпачываць душою, счарсьцьвелаю ў розных сутыкненьнях. Адно такое сутыкненьне вельмі закранула мяне.

У той самы дзень мы на трамваі пад'ехалі да чыгуначнага вакзалу, дзе на прыпынку тоўкся вялікі натоўп. Адчыніліся дзьверы, і пачалося штосьць дзікае й дзіўнае. Натоўп, ня даўшы людзям выйсьці з трамваю, рынуўся ў дзьверы, дзе стаўкліся й сьціснулі адзін аднаго. Каля мяне залемантавала жанчына: яе малое дзіця прыціснулі, але ніхто не зьвяртаў увагі, атмасфэра ў трамваі поўнілася злосьцю й страхам. Проста ў дзьверы, не даючы выйсьці, лезьлі з вылупленымі вачыма й чырвонымі тварамі нейкія істоты. Ува мне спрацавала якаясь унутраная спружына, і я моцна выштурхнуў тых істотаў зь дзьвярэй, гучна пры гэтым па-расейску мацюкнуўшыся. Дзіўная справа: натоўп каля дзьвярэй даў нам выйсьці, а сам спакойна пасьля зайшоў. Крыху пазьней я з горкай іроніяй думаў, што гэтыя людзі разумеюць толькі сілу й мат. Чаму ж тутэйшыя беларусы (а ўсе ж адзначаюць памяркоўнасьць як нацыянальную рысу беларусаў) сталі як шалёныя сабакі? Шматгадовы расейска-савецкі ўціск, наплыў у горад расейцаў зьмянілі энэргетычнае поле места. Цяперашняе няўтульнае жыцьцё ў РФ, што балянсуе на мяжы вайны, сталае процістаяньне ў грамадзтве, шмат яшчэ якіх розных прычынаў прывялі да зруху ў этнапсыхіцы людзей. Гэты зрух я і адчуў у трамваі.

Аднак падарожжа па вечаровым Смаленску вярнула мне душэўную раўнавагу, а наступнай сонечнай раніцай я выходзіў на гомельскі пэрон з надзеяй і верай.



На выданьне «НН» **ахвяравалі:**

*Альбіна Чапкоўская — 500 руб.*
*Клаўдзія Анісава — 300 руб.*
*Сяргей Мурог — 2000 руб.*

**Вялікі дзякуй!**



## *ПАШТОВАЯ СКРЫНКА*

***В.А. з Магілёва.*** Усё ж адказваем, бо ня толькі на Ваш ліст, чытаючы які, можна зрабіць высноaccess, што беларуская нацыянальная сьвядомасьць пагразла ў стылістычных аблудах. Урэшце, хто скажа, што першаснае — стылістыка ці сьвядомасьць! Думкі як правіла не выслоўліваюцца, а «намяківаюцца». І хоць, выдыхаючы хаатычную моўную масу, людзі добра разумеюць адзін аднога, але поступу ў сьвядомасьці няма й ня можа быць — бо ў хаосе ніяк не разьвіваецца думка.

Вы закідаеце нам элітарнасьць — але гэта ня нашае слова. І называе яно пэўную маргіналію, вузкае кола, хай сабе й вельмі разумнае. Для «НН» не йснуе ніякіх абмежаваньняў у сфэры нацыянальнае сьвядомасьці. Іншая рэч, што кола беларускае сьвядомасьці чыста фармальна можа выглядаць сёньня элітарна-вузка. Але нас цікавіць пашырэньне гэтага кола якраз у выніку падвышэньня ягонае якасьці, а не за кошт «уступак масавасьці», чым даволі безвынікова займаюцца сёньня дыдактычныя асьветнікі. Элітарнае нацыянальнае культуры як такой на Беларусі цяпер няма.

«НН» не антысавецкае, як бадай і ніякае анты- выданьне. Мы стаім на пазыцыях «Нашае Нівы» пачатку стагодзьдзя, а яе ніяк нельга папікнуць гэтым благім словам. Савецкі пэрыяд — зьява насычаная й шырокая ў беларускай культуры — патрабуе сёньня грунтоўнае пераацэнкі, а каб пераацаніць, трэба зірнуць збоку, а не зь сярэдзіны. Пераацаніць можна толькі зь нейкага цьвёрдага грунту — уласна беларускай культуры, якая ніколі не была савецкай.

Сацрэалізм да рэалізму ня мае ніякага дачыненьня, дарма што так называецца. Гэта чыста мэдытатыўнае мастацтва, «гульня шкляных пэрлінаў» — і толькі ў такім вымярэньні паддаецца плённаму аналізу з пазыцыяў сапраўднага рэалізму. Апошні пераваліў стадыю крытыцызму і, пакуль у СССР мэдытавалі, разьвіваўся зусім іншым шляхам — праз экзыстэнцыялізм, напрыклад, і філязофію свабоды.


**НАША НІВА** Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. **Рэдакцыйная Рада:** Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глёбус, Алег Дзярновіч (афіцыйны прадстаўнік Рэдакцыі ў Менску), Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа (адказны сакратар). **Заснавальнік і выдавец** Павал Жук. **Адрасы Рэдакцыі:** Вільня, вул. Жыгімонта 12/2, **тэл.** 224161, **для допісаў:** 2041 Вільня а/с 2082, або 220123 Менск а/с 71. Афсэтны друк. Фамат А3. Агульны наклад 20 тыс.





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку». Замова 1113

**ПАДПІСКА** У межах Рэспублікі Беларусі *Нашу Ніву* можна выпісаць у любым аддзяленьні сувязі. Індэкс: 63125. У пытаньнях падпіскі й рассылкі за межы Беларусі й СНГ зварачайцеся на адрас: Siarhiej Šupa, Vasaros 7, 2055 Vilnia, Lithuania.